Ульянавічы. ◊ ГО́ЛАСАМ ГАЛАСІ́ЦЬ. Вельмі моцна плакаць, галасіць. *Го́ласам гало́сіць та́я ма́тка*. *На галаву́ ру́кі скла́ла і гало́сіць го́ласам*. Запруддзе.

**ГО́ЛУБ** *м*. Голуб. *Галубы́*, *вераб'і́*, *саро́кі ў нас во́дзюцца*. Багданава. *Гулубо́ў по́ўна тут*, *пъ ха́тъх вядзе́цца*, *яго́ мя́са яду́ць*. Сукрэмна.

**ГО́ЛЫ** *прым*. 1. Голы, нічым не пакрыты. *Калі́ на го́лы лес гром грымі́ць – неўража́й бу́дзіць* (прыкмета). Дольдзева. *Е́слі гром на го́лы лес – год бу́дзіць ніхаро́шы*, *адзе́ўся лес – хаъ̆рашо́* (прыкмета). Запруддзе. *На го́лы лес закукува́ла зязю́лька – э́та ні хърашо́* (прыкмета). Партызаны. *Е́слі мужчы́на го́лы ле́зіць* [так сасніш] – *бале́знь* (павер'е). 2. Бедны, нішчы. *Го́лая ба́ба*, *па́льца абвярну́ць німа́ чым*. Запруддзе. ◊ ГОЛ ЯК САКО́Л. Дужа бедны, нічога не мае. Багданава. ◊ РАБО́ТАЦЬ ЗА ГО́ЛЫ ТРУДАДЗЕ́НЬ. Праца без аплаты ці з невялікай аплатай. *Рабо́талі за го́лы трудадзе́нь*. *На э́ты трудадзе́нь палуча́лі ні бо́лій пяць капе́ік у канцы́ го́да і грам дзве́сця-дзве́сці підзіся́т хле́ба*. Фасаўшчына. ◊ НА ГО́ЛЫ ЖЫВО́Т. Нашча. *На го́лы жыво́т вы́піла*. Міцюкова. ◊ (прыйсці́) НА ГО́ЛЫ КА́МЕНЬ. Там, дзе пуста, нічога няма. *Спалі́лі ўсю дзярэ́ўню – прышлі́ на го́лы ка́мень жыць*. Багданава.

**ГОЛЬ** *ж*. ◊ ГОЛЬ ПЕРАКА́ТНАЯ. Галеча, бядняк спрадвечны. *Былі́ голь пірыка́тнъя ат ве́ку*. *Гэ́та голь перъка́тнъя – бе́днъя тъка́я.* Запруддзе.

**ГО́МАН** *м*. Гоман, шумная размова. *Не́йкі го́ман у кватэ́ры*. *У кваці́ры го́ман*. Дольдзева. *Чу́ю*: *усё го́ман там*. Неўгадава.

**ГОН** *м*. Зямельны надзел, які арэцца. *Узялі́ каня́*, *прыняслі́*, *на гон паста́вілі*. Міцюкова.

**ГО́НКА** *прысл*. Хутка, шпарка. *Вол жа го́нка ні бяжыць*. Каралевічы. *Го́нка пашла́ машы́на.* Багданава. *Го́нка ідзе́ць*. Вялікі Азярэцк.

**ГО́НКІ** *прым*. 1. Хуткі, быстры, рухавы. *Яна́ го́нкая*, *я не саганю́ся за ей*. *Йна го́нкъя ба́ба*, *йна здаро́въя*, *што біч* [палка]. Запруддзе. «*Я́ва*» *ду́жа го́нкая*. Багданава. 2. Выносісты, высокі. *Сасо́нка*, *іна́ го́нка была́*. Багданава. 3. Тонкі, худы. *Яна́ го́нкая*, *ідзе́ – ад ве́тру шата́ецца.* Багданава.

**ҐОНТ** *м*. Гонта. *Дзе́лалі ґонт с асі́ны крыць кры́шу*, *ґонт на́да драць*. *Во цяпе́р ужо́ ґо́нтаю ха́ты* [крыюць]. Багданава. *Ґо́нтам кры́лі*, *шы́фірам*, *шчапо́й*, *дра́нкай*, *бля́хай кры́лі*. Запруддзе. *Ґо́нтам*, *дра́нкай кры́лі*. Леснікі. *Ну*, *ґонт*, *дра́нка называ́іцца*. *Ґонт струга́юць станко́м такі́м*, *шчапа́к называ́іцца.* Нямойта. *Ґонт – чуў*, *у нас жыў за рако́ю*, *у яго́ ґо́нтам* [накрыта]. Манголія.

**ҐО́НТА** *ж*. Тое ж. Багданава.

**ГО́НЧЫ** *м*. Ганчак, гончы сабака. *Го́нчы* [сабака] *пасе́ць каро́ў*. Баравікі.

**ГО́НЯ** *ж*. Гоні; старая мера ворнай зямлі. *Тры го́ні атсадзі́ла*. Чуцькі.

**ГОП** *выкл.* Хутка, імгненна скочыць. *Кот – гоп у вакно́*. Самсоны. *Я – гоп на зямлю́*, *ай*, *во́чачка выка́чваецца*. Партызаны.

**ГО́ПІКІ**, **О́ПІКІ** *мн*. 1. Перамёрзлая, перазімаваная бульба. *Хо́дзім па по́лі*, *збіра́ем гэ́тыя го́пікі – бу́льбу ле́ташнюю*. Кішуроўшчына. *Збіра́лі па по́лі* [пасля вайны] *бу́льбінкі*, *зва́лі го́пікі*, *яны́ буйны́я*, *але́ засталі́ся на по́лі*, *мёрзлыя*. Ракаў Засценак. *По́слі вайны́ гълата́*, *есь хо́чыцца*, *дык з го́пікаў пы́шкі рабі́лі*. Заазер'е. 2. Страва (аладка, блін), згатаваная з перамёрзлай бульбы. *Го́пікаў пад'ясі́ – пано́с ста́ніць у людзе́й.* Ракаў Засценак. *Го́пікі пяклі́ з мёрзлай бу́льбы*. Дуброўкі. *Траву́ рва́лі абы-яку́ю, таўклі́ бу́льбу гнілу́ю – о́пікі называ́ліся*. Рэчкі.

**ГО́РА** *н*. 1. Гора, бяда, няшчасце. *Не адно́ го́ра*, *дык друго́е*: *па́льцы адрэ́заў*. *Ско́лька тут той жы́зні астае́цца пажы́ць*, *а ўсё го́ра і го́ра*. *Го́ра заста́віць*, *усяму́ наву́чыць*. *Го́ра быва́іць ні адно́*, *дык друго́е*. Апечкі, Багданава. ГО́РАЧКА *памянш*. *А-яй-яй*, *пасле вайны́ тако́е ж было́ го́рачка*! Запруддзе. 2. Клопат, турбота, цяжкасці. *Трава́ спары́ш ду́жа карані́стая*, *вы́палаць яе́ дык го́ра*. Гарадзец. ◊ ГО́РА ПА ГО́РУ. Пра бяду, што не пакідае чалавека. *Го́ра ёй па го́ру*: *муж прапа́ў*, *уну́к напі́ўся ў шко́ле*, *бі́ўся*. *Е́тай жанчы́не го́ра па го́ру*. Запруддзе.

□ *Ад го́ра ні ў мо́ра – въда́ хало́дная*. Каралевічы. □ *Го́ра з бядо́ю у абды́мку хо́дзяць*. Запруддзе.

**ГО́РАД**, **ГО́РАТ** *м*. Горад. *То́лькі пъ гаръда́х аста́лiся цэ́рквы*. Заазер'е. *Ну*, *я пайшла́ на го́ръmт*. Нямойта.

**ГО́РАН** *м*. Горан (у кузні). *Бярэ́ш жале́за*, *абгіна́іш на клін*, *кусо́к жале́за ло́жыш і ува́рыіш у гарне́*, *кап* [было] *жы́ткае*, *як вада́*. Жохава. *Мех быў у ку́зні*, *го́ран*. Міцюкова. *Каля го́рна заллю́ся по́там*. Ульянавічы.

**ГО́РАСЦЬ** *ж*. Клопаты, турбота. *У ка́ждага сваé го́расці*. Жохава.

**ГО́РАЧКА** *ж*. Горка, невялікі ўзгорак, узвышша. *Там го́ръчка тъка́я*, *лясо́к*. Вялікі Азярэцк, Каралевічы.

**ГОРБ** *м*. Пагорак. *Ко́ззі – там горб*$^{п}$ *сяро́т бало́та*. Багданава.

**ГО́РДАЦЬ** *незак*. Грэбаваць, пагарджаць. *Раз так го́рдуюць – на паро́г не зо́йдуць*. *Ня го́рдайця*, *е́жце малако́*. *Ня го́рдайця*, *су́пу на́да была пачэ́рпаць*. Міцюкова. *То́лькі ня го́рдайця*. Нямойта.

**ГО́РДЫ** *прым*. Ганарысты, пагардлівы, фанабэрысты. Жохава.

**ГО́РКІ** *прым*. Горкі. *Пъдале́шнікі жо́ўтыя*, *го́ркія*. Алексінічы. *Казлы́ былí*, *жо́ўцінькім цвіці́ць*, *высо́кія такí я*, *го́ркія-го́ркія*, *наста́івалі і аблíва́лі* [ад клапоў]. *Го́ркі*, *як палы́н*. Багданава. *А, гэ́та го́ркая трава́ падбе́л*. Заазер'е. *Жугу́шка го́ркъя*, *яе́ ме́ні ўкладзí* [у вар] *й хърашо́ піць* [ад нерваў]. Чуцькі. *А лісткí красíвые з медуні́цы*, *але́ го́ркія*. Серкуці. ГО́РЧЫНЬКІ *памянш*. *Піўко́ го́рчынькъя*, *а бо́лі нічо́га*. Чуцькі.

**ГО́РЛА** *н*. Горла. *Цвёрдае го́рла ў ку́рыцы*, *пало́жыш гаро́ху ў го́рлышка*, *і яно́ бараба́ніць*. *Го́рла ку́рынае пасу́шыш*, *пало́жыш дзве-тры гаро́шыны*, *кальцо́ зро́біш*, *як бара́нак, дзе́лалі дзіця́м*. Буй. ГО́РЛЫШКА *памянш*. Буй.

**ГО́Р'Е** *н*. Тое ж. *Гарлаві́на у каро́вы, го́р'е*. Парэчча.

**ГО́РЛІК** *м*. Лясны голуб. *На го́рліка ахо́цілісь.* Сянно.

**ГО́РНІЦА** *ж*. Збудаваны цалкам (пад ключ) дом. *Я сама́ гэ́ту бу́дку стро́іла*, *а цяпе́р даю́ць го́рніцу*. *На табе́ ключы́ – усё гато́ва*. Нямойта.

**ГО́РНІЦА** *ж*. Дарога. Закур'е.

**ГО́РТАЧКА** *ж*. Мера лёну, роўная дваццаці жменям. *Лён на таку́ засцíла́лі*, *па два́ццаць жмень звя́звалі*. *Тады́ ге́тыя го́ртачкі кладзе́ш*, *на го́ртачкі даску́*. Багданава.

**ГО́СПІТАЛЬ** *м*. Шпіталь. *Паéду ў го́спіталь у Ві́цебска*. Нямойта.

**ГОСЦЬ**, **ГОСЬ** *м*. Госць. *Ён госць у яго́*. *Быва́ла ў го́сці е́здзілі*, *го́сці зва́ліся*. Запруддзе. *Садзí цеся*, *дърагéя го́сці*. Міцюкова. *Гасцю́ ўсігда́ пачо́тнъе ме́ста*. *К вам гось яшчэ́ прые́хаў*? Партызаны. *Па гасця́х хадзí лі*. Неўгадава. ◊ НА ГО́СЦІ. У госці. *Так*, *на го́сці прые́дуць у выхадны́е*. Партызаны. *Вы на го́сці прые́халі*? Ульянавічы. ◊ ПАБЫВА́ЦЬ У ГАСЦЁХ. Быць за госця. *Мо́жа яшчэ́ дзе ў гасцёх пабыва́еце*. Каралевічы.

□ *Якí гось*, *така́я і чэсь*. Багданава. □ *Насí Бох гасцéй – і я каля іх часцéй* [часцей як пажаданне]. Ульянавічы. □ *Дай Бох гасцéй часцéй – бу́дзе сям'í лягчэ́й*. Дуброўкі, Каралевічы.

**ГО́ТКІ** *мн*. Аднагодкі, равеснікі. *У сельсаве́цы рабо́таіць*, *ду́жа здаро́вая*. *Мъльда́я*, *с Тама́рай маёй го́ткі*. Багданава.

**ГО́ХКАЦЬ** *незак*. Таўчы да знясільвання (крупы, зерне). *Го́хкаеш кру́пу*, *паку́ль рука́ не абле́зіць*. Міцюкова.

**ГО́ЦАЦЬ** *незак*. Гоцаць, падскокваць, прыкладваючы намаганні. *У лес пае́дзіць*, *заві́сніць дзе́рава – на другóе паві́сне*, *ён го́цае*, *паку́ль ні зва́ліць*. Жохава.

**ГРАБАНУ́ЦЬ** *зак*. Крыху пагрэбці. *Сядзе́ла з дзіця́мі*, *калí се́на грабану́ тро́хі.* Чуцькі. *Се́на ў гаро́дзі грабану́*, *ля́ху вы́палю*. Чуцькі.

**ГРАБА́Р**, **Ґ́РАБА́Р**, **ГРА́БАР** *м*. Землякоп, грабар. *Граба́р ён быў і спецыя́льна кънáвы капа́ў*. Парэчча. *Ґраба́р кало́дзезь капа́ў*. *Глубо́ка ду́жа вы́капаў*. *Граба́р пайшо́ў абе́даць*. *Нагна́ла агíру і асакí*, *нямо́жна было́ зліць*: *глыбо́ка вы́капаў* [калодзеж]. Дольдзева. *Грабары́ зва́лі*, *кана́вы яны́ капа́лі*. Гарадзец. *Грабары́ былí*, *къпа́лі раку́*, *і*

*бáцька мой хадзíў*, *гръбарóм звáлі*. Манголія, Сукрэмна. *Нанімáлі людзéй кънáвы капáлі*, *грáбары назывáліся*. Турава.

**ГРА́БАЦЬ** *незак*. Працаваць, корпацца. *Рабóтай*, *пакýль рýкі грáбаюць*. Запруддзе.

**ГРАБЁНКА** *ж*. Грабянец, грэбень (для расчэсвання валасоў). *Грабёнку кала кустá пацярáла*. Фасаўшчына.

**ГРАБЁШКА** *ж*. Тое ж. *А воўк дзéўчыню – хапыль і панёс ў лес*, *нашлí касынку*, *грабёшку.* Партызаны.

**ГРАБІ́ЛКА** *ж*. Грабілка; сельскагаспадарчая машына для зграбання сена. *Грабíлкай сагрaбáлі*, *на трáктар сéна клáлі*, *пад Кáнева нáша сéна*. Партызаны.

**ГРАБІ́ЛЬНА**, **ГРАБІЛНО́**, **АГРАБІ́ЛЬНА**, **ГРАБІ́ЛНА**, **АГРАБІ́ЛНА** *н*. Грабільна; ручка (дзяржанне) у граблях. *У гръбляx грабíльна*, *брусóк*, *зýб'я ёсь*. Леснікова. *Грабíльна і брусóк з зýб'ямі ў граблях*. Розмыслава, Дольдзева. *Грабíлна зламáў*. *У мужыкá грабíлна у рукáх*. Нямойта. *У гръбляx грабілнó*, *брусóк*, *зýб'я*. Баравікі. *Аграбíльна ў граблях ламáіцца.* Гарадзец. *Ён стук аграбíлнам аб пол*. Нямойта.

**ГРА́БЛІ**, **АГРА́БЛІ**, **АГРАБЛІ́** *толькі мн*. Граблі. *Зýб'я з дýба ў грáблі дзéлълі*. Заазер'е. *У граблях аграбíлна*, *брусóк*, *зýбы*. Гарадзец. *Вóзьмеш агрáблі, сор увéсь адсýнеш*. Дольдзева. *Што ты аграблямі дзéлаіш*. Вялікі Азярэцк.

**ГРА́БІЦЬ** *незак*. Рабаваць. *Яны́* [паліцаі] *брáлі*, *грáбілі ў людзéй*. Багданава.

**ГРАБЯНЕ́Ц** *м*. Грабянец, грэбень (для расчэсвання валасоў). *Грабянéц – адзíн бок чáсты*, *другí – рэ́ткі*. Багданава. *Гръбянцы́ алюмíнівые дзéлалі*. Серкуці. *Грабінцá ў галавý німá*. Вялікі Азярэцк.

**ГРАБЯНЁК** *м*. Грабеньчык (у птушак). *Курупáткі звáліся*, *іх лóвюць*, *грабянёк такí*, *галóўка крáсненькая*, *жóўценькая*. Цясішча.

**ҐРА́ҐАЦЬ** *незак*. Каркаць. *Варóны ґрáґаюць*. *Кáчкі ґрáґаюць*. Розмыслава.

**ГРАД**, **ГРАТ** *м*. Град. *Каб грáду ні былó і пъмялó брáлі і лъпáту паравéрчвалі тым бóкам*, *дзе хлеб брáлі*, *як пяклí*, *каб усé паравярнýліся* (прыкмета). Чуцькі. *Не на маёй пáмяці град*$^{т}$ *выбіў зярнó*. Нямойта. *Як грат лéтам – лапáту выбрасіш* (прыкмета). *Старынная э́та прыхамаць*, *цяпéр э́та ні нáда*. Савінічы. *Як дош мóцны йдзець*, *кíдай лъпáту вон* [з хаты], *штоп грат ні пабíў* (прыкмета). Партызаны.

**ГРАДА́** *ж*. 1. Штабель дроў. *Грáды былí пат сцянóй*, *для дроў былí драўнікí*. Вялікі Азярэцк. *Градá дроў былá*, *самá сцягнýла у хлеў*. Багданава. *Грáды дроў ляжáць*, *альхóвыя*. Партызаны. *Грыдá дроў*. *Мóжна крýгла складáць*, *мóжна так*. Савінічы. *Пайдý дрóвы складáць у градý*. *Я іх* [дровы] *рэ́зала*, *калóла й склáдывала ў градý*. Заазер'е, Станюкі, Серкуці, Ульянавічы. 2. Дрывотня; месца, дзе складваюць дровы. *Градá завём мы éта*, *дзе дрóвы склáдыюць*. Фасаўшчына. 3. Стос, пак (газет, папер). *Цэ́ла градá газéт*. Вялікі Азярэцк.

**ГРАДАБІ́ДНЫ** *прым*. ○ ГРАДАБІ́ДНАЯ СЕРАДА́ (СІРІДА́ ГРЫНАБІ́ТНАЯ). Градавая серада; дзень (серада) пасля Вялікадня. *На градабíдную серадý нільзя́ пя́рыць бяллё прáннікам*. Багданава. *Сірідá грінабíтная бывáіць лéтам, éта грат бывáіць.* Самсоны.

**ГРА́ДКА** *ж*. 1. Градка (для вырошчвання раслін). *Дýжа грáдкі ні палóла на русáльную нядзéлю*. Вялікі Азярэцк. 2. Штабель дроў. *У грáдку склáдзены дрóвы*. Леснікова. *Склáдвалі дрóвы у грáдку*. Станюкі, Рэчкі, Чуцькі.

**ГРАЗА́** *ж*. Навальніца. *Газá – éта такí клубóк*, *ні дай бох гразы́*. *Нъйшлá такáя газá*, *цёмна*. *Нъйшлá газá*, *аднý бáбу забíла*, *а дрýгую асмáліла*. Багданава. *Пóслі Прачыстай газá ужэ́ канчáецца* (прыкмета). Нямойта. *Я вíдзіў*, *як ува бед стáла нъхадзíць гръзá – свéтлъя хмáра*. Міцюкова. *Вýтрачкам устáнеш*, *ідзéш у лес*, *рáзные цвяты́ рвеш*, *а тады́ ў цэ́ркву свяцíць нясéш*, *а тады́ усé вéшалі ў хáці*, *у хлéві – ад гразы́*. Цясішча.

**ГРАЗІ́ШЧА** *н*. Вялікая гразь. *У нас тады́ гразíшча былó*. Буй.

**ГРА́ЗНА** *прысл*. Гразна, гразка. *Дýжа грáзна былó увяснý і ўвóсень*. Самсоны.

**ГРАЗНЕ́Й** *прысл*. Больш грязны, гразкі. *Што гразнéй*, *то здаравéй*. Запруддзе.

**ГРА́ЗНЫ** *прым*. Гразны, гразкі. *Гра́зныя ру́кі, павыма́зъліся: у пяску́ кача́юцца*. Багданава. *Ду́жа ву́ліца гра́зная была́*. Самсоны.

**ГРАЗЬ, ГРАСЬ** *ж*. Гразь, бруд. *Пълажылі ў куле́ю, у гразь, перат шафёрам*. Багданава. *І гразь е́лі, і ў гразі́ жылі́, а здаро́выя былі́, як мядзве́дзі*. Ульянавічы. *Ле́пюць гняздо́* [ластаўкі] *з гра́зі і быстра, і дні за тры*. Фасаўшчына. *Здзе́лала А́лю на гразь, на мазь*. Парэчча. *Хто по́йдзіць у гэ́ту гразь*. Закур'е. *Грась на рука́х*. Вялікі Азярэцк, Заазер'е. *Грась на ву́ліцы*. Заазер'е. *І с пе́снямі жы́лі, а цяпе́р заняло́*. Азярэцк. ◊ ЯК ГРАЗІ́. Шмат, многа. *Ле́тысь я́блык як гразі́ было́ насыпана*. Ульянавічы. *Жуко́ў як гра́зі на бу́льбі*. Серкуці.

**ГРАЗЮ́ГА** *ж*. Вялікая гразь. *Гразю́га тъка́я на той хе́рмі*! Пожанькі.

**ГРАК** *м*. Грак. *Гракі́ ў чатыры часы́ начына́юць крыча́ць*. Баравікі. *Ні былі́ ж тыя гърацкі́я, а з дзярэ́ўні гледзя́ць, як гракі́*! Савінічы.

**ГРА́КНУЦЦА** *зак*. Грукнуцца, упасці з моцным шумам, грукатам. *Гэ́дакімі мазга́мі сваі́мі гра́кнуўся аб дзе́жку*. Дольдзева.

**ГРА́КНУЦЬ** *зак*. Грукнуць, грымнуць, з сілай ударыць. *Як гра́кнула кача́лкай аб стол – вон з ха́ты*. Дольдзева.

**ГРАМ** *м*. Малая колькасць чаго-н., трохі, няшмат. *Каб гра́ма што пъмаглі́, а пяру́н жа абпаліў ха́ту*. Апечкі. ◊ ДА ГРА́МА. Цалкам, поўнасцю. *Пагнілі́ ўсі да гра́ма я́блыкі*. Запруддзе. ◊ НІ ГРА́МА. Нікольki. *Ні хачу́ жыць ні гра́ма*. Самсоны. ◊ НІ ГРА́МАЧКІ. Тое ж. *Ні гра́мъчкі ні засну́: так балі́ць по́чка*. Нямойта.

**ГРА́МАТА** *ж*. Пісьменнасць, адукацыя. *Раз-два-тры-чатыры – / Мяне́ гра́маце ні ўчылі, / Ні піса́ць, ні чыта́ць, / То́лькі ў па́лачкі гуля́ць. / Я ў па́лачкі гуля́ла, / Сабе́ но́жаньку злама́ла* (дзіцячая лічылка). Запруддзе. *А гра́маце нас ні навучы́лі*. Неўгадава.

**ГРАМАТВО́Т** *м*. Громаадвод. *Ста́лі граматво́ты ста́віць*. Багданава.

**ГРАМАТНЕ́ЙШЫ** *прым*. Больш пісьменны, адукаваны. *До́чка і́хная граматне́йшая*. Міцюкова.

**ГРА́МАТНЫ** *прым*. 1. Пісьменны, адукаваны. *Ба́цька гра́мътны быў, а брат быў грамътне́йшы*. Чуцькі. *Іна́ тро́ху гра́матнъя была́*. Багданава. 2. *перан*. Які выяўляе адзнакі розуму. *Пяту́х сі́льна гра́мътны: мо́ніць піскляня́т, кап збіга́лі з даро́гі*. *У мяне́ каро́вы гра́мътныя: мы клу́нкі на пле́чы – ў лес, і яны́ у лес, а там зно́йдуць нас*. Каралевічы.

**ГРА́МАЦЬ** *ж*. Пісьменнасць, адукацыя. Запруддзе.

**ГРАМІ́ЛА** *агульн*. Высакарослы, вельмі мажны, грузны чалавек. *Во грамі́ла, здаро́вы, бальшы́ чълаве́к*. *Грамі́ла ка́жуць, хто здаро́вы*. Багданава.

**ГРА́МІНА** *ж*. Малая колькасць, трошкі, няшмат. *Я во ге́ткае гра́міны ні ўзяла́ ў рот*. Багданава.

**ГРАМІ́ЦЬ** *незак*. Знішчаць, разбураць. *Мо́жа грамі́ў ён царкву́*? Буй.

**ГРАМНІ́ЦЫ** *толькі мн*. Грамніцы, Стрэчанне; зімовае свята народнага календара (пэўны дзень у лютым месяцы, калі, паводле традыцыйных уяўленняў, зіма сустракаецца з вясной). *Пітна́ццатага фіграля Грамні́цы*. Гарадзец. *Грамні́цы былі́ зімо́й, у феврале́, све́чы свяці́лі, атпра́ва была́*. Савінічы. *На Грамні́цы ба́цюшка све́чы све́ціць*. *Све́чка ге́та ад грымо́ту, ад перуна́*. Каралевічы. *У нас жа заву́цца Грамні́цы, а ў Ленінгра́дзе – Встрэ́чанне*. Нямойта. *По́сле Грамні́ц се́на на́да скату́ траці́на, а хле́ба палаві́на*. Запруддзе. *На Грамні́цы каб вол напі́ўся, то вісна́ бу́дзіць ра́нняя* (прыкмета). Гарадзец. *Калі́ на Грамні́цы въда́, тады́ жы́та пасьпе́іць да Льлі* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Свячо́й, што на Грамні́цы прынясу́ць, дзе́цям въласы́ пътпа́львалі*. Гарадзец.

□ *Грамні́цы – палаві́на зімі́цы, скіда́й рукаві́цы*. Буй, Каралевічы, Чуцькі. □ *На Грамні́цы – здзіва́й* (*скіда́й*) *рукаві́цы*. Запруддзе, Жохава. □ *Да Грамні́ц не скіда́й рукаві́ц*. Міцюкова. □ *Дъжда́ў Грамні́ц – пълаві́на зімі́цы, хле́ба траці́на, а ко́рму пълаві́на*. Дольдзева, Вялікі Азярэцк, Партызаны. □ *На Грамні́цы <пад вугло́м> нап'е́цца пяту́х вадзі́цы*. Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Міцюкова, Леснікова. ГРАМНІ́ЧКІ *памянш*. □ *Грамні́чкі – пълаві́на зямі́чкі*. Ракаў Засценак.

**ГРАМУ́ЛЬКА** *ж.* Малая колькасць, трошкі, няшмат. *Граму́лькі се́на німа́. У само́га се́на ні граму́лькі німа́.* Буй.

**ГРАНІ́СТЫ** *прым.* Пакрыты кучавымі (белымі) воблакамі. *Не́ба грані́стъя* – [гэта] *не́ба ў гра́нкъх, па не́бу кургуна́мі во́блъкі хо́дзюць.* Запруддзе. *Як бу́льбу се́юць, не́ба грані́стае – бу́льба до́брая бу́дзе* (прыкмета). *Сёння не́ба грані́стае – бу́дзе бу́льба ўраджа́йная* (прыкмета). Багданава.

**ГРА́НКА** *ж.* Баразна, радок, градка. *Бу́льба атмя́кла, гра́нкі шчэ паганя́ў. Гра́нкъмі пъганя́й і дава́й бураќі садзі́ць.* Багданава. *Гра́нка цыбу́лі.* Розмыслава. *Варо́на з'е́ла гра́нку квасо́лі: зъ ціцівіну і ця́гніць.* Сукрэмна. *Нъга́ балі́ць хадзі́ць пъ гра́нках.* Вялікі Азярэцк.

**ГРА́НКІ** *мн.* Кучавыя (белыя) воблакі. *Гра́нкі, не́ба грані́стае.* Багданава. *Не́ба ў гра́нках.* Запруддзе.

**ГРАНО́К** *м.* Край (печы), акраек. *На гранку́ мыла ляжыць.* Рэчкі.

**ГРАНЯ́ЦЬ** *незак.* Абворваць, акучваць. *Бу́льбу граня́юць аку́шнікам.* Мянюцева.

**ГРА́СКІ** *прым.* Гразкі, брудны. *Гра́ская ко́фта.* Серкуці.

**ГРА́ТКА** *ж.* Хваля, складка на паверхні чаго-н. *Страчкі́, смарчкі́ ні рызьліча́ю: гра́ткімі такі́мі яны́.* Вялікі Азярэцк.

**ГРА́ТКІ** *незак.* Гуляць (пра дзяцей). *Дзе́ці пайшлі́ гра́ткі, я тут адна́. Дзе́ці ўцяклі́ гра́ткі, ні пумуга́юць.* Партызаны.

**ГРА́ЎЦЫ** *мн.* Жыхары вёскі Граўшчына. Пожанькі.

**ГРАЦЬ** *незак.* 1. Іграць. *Як гра́іць му́зыка, як по́йдуць друтува́ць, як ха́та ні разва́ліцца.* Вялікі Азярэцк. 2. Блішчаць, пераліватца featuring рознымі колерамі. *На Іва́на ра́на со́нца гра́ець, то падымецца, то апу́сціцца, разбіга́іцца ро́знымі цвіта́мі – сі́німі, кра́снымі, жо́ўтымі.* Запруддзе.

**ГРАЧА́НЫ**, **ГРЭЧА́НЫ** *прым.* Грэцкі. *Кру́пы былі́ грача́ныя, свайе́, з свайе́ грэ́чкі. Грэча́ныя кру́пы былі́.* Партызаны.

**ГРАЧНЁВЫ** *прым.* Грачнёвы, грачаны. *Гръчнёвая сало́ма з грэ́чкі. Гръчнёвая сало́ма длі ската́.* Жохава. *Грачнёвае звару́ ка́шы, яна́ скарэ́й ва́рыцца, яе́ ні перава́раць.* Вялікі Азярэцк. *Грачнёвы мёд са́ма лу́чша. Грачнёвы мёд мне нісма́шны.* Міцюкова.

**ГРАЧЫ́ХА** *ж.* Грэчка. *Грачыха лю́біць пішча́ную по́чву. Грачыха цвіце́ць – с пыльцо́й пчала́ ідзе́ць.* Нямойта. *Грачыха у нас ро́дзіць харо́шая.* Жохава.

**ГРАЧЭ́ЎНІК** *м.* Грачанішча. Міцюкова.

**ГРОБ**, **ГРОП** *м.* Труна. *Ля гро́ба да́йжэ ні стъя́ла* [пра жонку]. Багданава. *І гроп здзе́лалі тамў рабёнку.* Алексінічы. *У нас адзі́н памёр ат гарэ́лкі, дык пълажы́лі ў гроп бутылку. Некато́рым кладу́ць газе́ту, кні́шку. Партні́ха была́, то пълажы́лі кусо́чък мацерыя́лу і ні́так. С пра́въга бо́ку кладу́ць.* Ракаў Засценак.

**ГРО́ЗНА** *прысл.* Баяцца, выклікаць боязь. *Мне ня гро́зна* [не баялася] *была́ рабо́та.* Дуброўкі.

**ГРОМ** *м.* 1. Гром. *Гром як даў у късчарэ́жнік і ў бяро́зъвае чъпялі́шча, разбі́ў гэ́та чъпялі́шча і, як ша́рык, пъкаці́ўся.* Ракаў Засценак. *Калі́ пе́ршы гром загрымі́ць – куля́лісі чэраз гълуву́.* Багданава. *Пачу́ў гром, ста́ў і перакулі́ўся тры разы́, каб ні бая́ўся гро́му.* Партызаны. *Ле́тась на го́лы лес гром грыме́ў – бу́льба во пагніла́.* Гарадзец. *Грымі́ць пе́рвы гром у срэ́ду ці ў пя́тніцу і на го́лы лес – ні́ўръжа́й на бу́льбу* (прыкмета). *Калі́ грымі́ць пе́ршы гром, а лес хоць пу́чыцца, то бу́дзе ўръджа́й на бу́льбу* (прыкмета). *Пе́рвы гром грымі́ць на го́лы лес но́ччы – ця́жэсьць лю́дзям* (прыкмета). *Пе́рвы гром грымі́ць у сіраду́ і ў пя́тніцу – бале́зьні на скот* (прыкмета). *Е́слі гром загрыме́ў на адзе́ты лес, то бу́дзіць бага́ты год* (прыкмета). Запруддзе. *Е́слі гром загрыме́ў на го́лы лес, то бу́дзіць го́лы год* (прыкмета). Запруддзе. 2. *перан.* Шум, крык, лаянка. *І на дзе́да з гро́мам і на сы́на з вайно́й.* Дольдзева.

□ *З бальшо́га гро́му ма́лы дошч.*

**ГРОМ** *м.* Іван-чай (?; расліна). *Гром кра́сным цвіце́, ра́ілі па́рыць, кіпяці́ць.* Гарадзец.

**ГРО́МКА** *прысл.* Громка, чутна. *Гро́мка го́ласа не прізнасі́лі.* Жохава.

**ГРО́МНІК** *м.* Міфічная істота (?). *Гро́мнік невысо́кі, махна́ты, каб пяру́н ня быў.* Каралевічы.

**ГРО́ШЫ** *мн.* Грошы. *Ско́лькі гро́шай яны́ ръсхо́дъвалі. Ш чаго́ гэ́тыя гро́шы ўзяць?* Буй. *Гро́шы даю́ць і наза́д дзяру́ць.* Багданава. *Ці ма́ла грош табе́.* Баравікі. *Гро́шы ні палуча́лі. Атхо́даў, што чы́сцюць, даю́ць у канцы́ го́да, о́сенню.* Заазер'е. *Па граша́х аж трасе́цца.* Нямойта. *Гро́шы кладу́ць у два вуглы́, каб быў чалаве́к бага́ты* (прыкмета). Запруддзе. *У ма́ткі гро́шай, што каме́ння, сві́нні ні яду́ць* (жарт). Каралевічы. *Гро́шы як въда́. Што яны́ гуля́ючы гро́шы зарабля́юць?* Закур'е. *Як ёсь тро́хі гро́шай, то й плачу́.* Неўгадава. *Як гро́шы сня́цца – мідзякі́, дык дрэ́нна, бу́дуць слёзы. А як бума́жкі, то клъпаты́ бальшэ́я* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Пе́рвую зязю́лю каб пачу́ў з грашмы́, ко́жны год бу́дуць гро́шы* (прыкмета). Буй.

□ *У каго́ гро́шы, той і харо́шы.* Запруддзе. □ *Гро́шы лю́бюць лік, а ба́ба лю́біць цвік.* Запруддзе. □ *Гро́шы – гэ́та наво́с, сённі німа́, а за́ўтра вос.* Сянно.

**ГРУ́БА** *прысл.* Нізкім тонам (пра голас). *Бас зва́лі. Ці ён гру́ба гавары́ў*? Заазер'е.

**ГРУБЕ́Й** *прысл.* Таўсцей, грубей. *Грубе́й пра́лі мы́чкі.* Вялікі Азярэцк.

**ГРУБЕ́ЙШЫ** *прым.* Больш шурпаты на дотык, тоўсты. *Э́та бо́лі грубе́йшы* [ліст]. Серкуці.

**ГРУ́БЫ** *прым.* 1. Тоўсты. *У каро́вы груба́я ко́жа.* Серкуці. 2. Мажны; нявetлівы. *Мужы́к прышо́ў, гру́бы такі́* [не паздароваўся]. Нямойта. 3. Нізкі, непрыемны на слых. *Абе́і на́шы грубэ́я гаъласа́.* Кляпчэва. 4. Даматканы, хатняга вырабу. *Сваёга палатна́ ю́бкі грубэ́я ткáлі.* Цясішча. 5. Тлусты (пра страву). *Яна́ грубо́е ня есць.* Закур'е.

**ГРУД, ГРУТ** *м.* 1. Груда, куча. *Скі́дуюць у грут* [навоз], *ён перапрэ́іць, растраса́юць, заво́руць і тады́ се́юць.* Станюкі. *У грут скі́нуў су́чча і запалі́ў.* Заазер'е. *У груд^т наскіда́лі ламáчча.* Багданава. 2. Вогнішча. *А ра́ньшы* [на Купалле] *груды́* [рабілі]. *Дро́вы нацяга́юць, груд гары́ць, пяю́ць.* Заазер'е. 3. *прысл.* Вялікая колькасць, шмат. *Грут намы́йіш пла́ццяя.* Каралі.

**ГРУ́ДА** *ж.* Груда, вялікая куча. *Ляжа́ць гру́ды я́блык, як стог се́на.* Неўгадава. *Гру́дамі ляжа́ць я́блыкі у гаро́дзі.* Вялікі Азярэцк.

**ГРУ́ДЗІ** *толькі мн.* 1. Грудзі. *Як спужа́лася, дала́ гру́дзі ма́льцу – і ўсё. К адно́й ба́бі знасі́ла – нічо́га, у Ві́цебска сказа́лі ве́зці.* Багданава. 2. Грудная клетка. *У грудзёх цяжка: малака́ папіла́ хало́днага.* Каралевічы. *Каб табе́ ка́шаль гру́дзі біў* (праклён). Запруддзе. ◊ ПАД ГРУДЗЯ́МІ (ГРУДЗЬМІ́). Пад лыжачкай. *Пад грудзя́мі, пад ко́стачкай балі́ць.* Багданава. *Галава́ заму́чыла, пад грудзьмі́ ча́ста балі́ць.* Багданава. *З дзядо́ўніку шы́шкі, ко́ръњ тапі́ла і пілá, як бале́ла пад грудзя́мі.* Чуцькі. ◊ ЗА ГРУ́ДЗІ (узяцца, схапіцца). Узяцца (схапіцца) за адзенне. *Ён за гру́дзі – дай гро́шы.* Каралевічы.

**ГРУДЗІ́НКА** *ж.* Грудзіна, грудная косць. *Грудзі́нку высяка́юць. Грудзі́нку абраза́юць срадзі ног* [у свіней]. Багданава. *Грудзі́нка ў свінні́.* Гарадзец.

**ГРУЗД, ҐРУЗД** *м.* Грузды. *Грузд бе́лы сядзі́ць, здаро́вы. Ну, яны́ ўку́сные грыбы́.* Багданава. *Во такі́я то́ўстыя грузды́ былі́.* Запруддзе. *Ґрузды́ чо́рныя. Гру́здзя харо́шыя грыбы́, жы́рныя, іх ва́руць і хало́дныя яду́ць.* Вялікі Азярэцк, Дуброўкі.

**ГРУ-ГРУ** *выкл.* Гукі, якія перадаюць удары грому. *Гру-гру – гром грымі́ць.* Каралевічы.

**ГРУ́ЗНЫ** *прым.* Мажны, тоўсты. *Тъка́я гру́зная ба́ба была́, мо сто гадо́ў, а гру́знъя.* Запруддзе.

**ГРУЗУВЫ́** *прым.* Грузавы (пра машыну). *Грузува́я машы́на мяне́ ні ўзіла́.* Падворыца.

**ГРУ́ЗЧЫК** *м.* Грузчык. *Ры́сі ёсь, з дрэ́ва на гру́зчыкуў пры́гъла.* Вялікі Азярэцк.

**ҐРУК** *м.* Крумкач, груган. *Ґру́кі – у іх дзю́пкі бе́лыя, а са́мі чо́рныя, наліця́ць на кукуру́зу. Каб табе́ ґру́кі во́чы павыдзіра́лі* (праклён). Запруддзе.

**ГРУК-ГРУК, ГРУК-СТУК** *выкл.* Гукі, якія перадаюць рух пацука. *Грук-грук – ска́чыць смаля́нка.* Нямойта. *Грук-стук – крыса усё абла́зіла.* Нямойта.

**ГРУ́КАТ** *м.* Грукат. *Гру́кат гэ́ты – пулямёты стръля́юць, ста́лі бамбі́ць.* Серкуці.

**ГРУ́КАЦЦА** *незак*. Грукаццца, з сілай стукаццца. *Гру́каюцца ў дзве́ры, міліцыяне́р*. Багданава.

**ГРУ́КАЦЬ** *незак*. Грукаць, моцна, з сілай стукаць. *Гру́каюць но́ччы, а ў мяне́ дзе́ці бальнэ́я. А мы дыгъварылі́ся, ён і гру́каіць у акно́*. Багданава. *Дъва́й ка́мнямі гру́каць*. Гарадзец. *Чаго́ ты гру́каеш, каб табе́ ў гълаве́ гру́кала*. Вялікі Азярэцк. ГРУК-ГРУК. Адрывіста стукаць. *Се́рца грук-грук, а тады́ німа́ чълаве́ка*. Запруддзе. *Грук-грук у дзве́ры*. Багданава.

**ГРУНТ**, **ҐРУНТ** *м*. Цвёрды пласт зямлі. *Грунт цвёрды*. Гарадзец. *Ґрунт – като́рая цвірда́я* [зямля], *як ґрунт*. Нямойта.

**ГРУ́БКА**, **ГРУ́ПКА** *ж*. Грубка. *Ра́ньшы зва́лі гру́пка*. Заазер'е. *Мы гру́пку зътапі́лі, іх павы́сушылі*. Кішуроўшчына. *Гру́пку на́да перадзе́лываць. Гру́пку таплю́ ся́нні*. Неўгадава. *Цёпла, калі́ гру́б^пку пратаплю́*. Закур'е. Неўгадава. ГРУ́БАЧКА *памянш*. *Гру́бачка – е́та шчэ да вайны́ былі́, во стая́лі каля пе́чы*. Багданава.

**ГРУ́ЦА**, **ҐРУ́ЦА** *ж*. 1. Суп з ячменных круп і бобу. *Гру́ца – суп такі́, э́та з бо́бу, круп пярло́вых усы́пюць*. Кляпчэва. *Ґру́ца – із бо́бам суп густы́*. Ульянавічы. 2. Страва з ячменных круп з грыбамі. *Гру́ца з грыба́мі*. Дольдзева.

**ГУРЧЭ́ЦЬ** *незак*. Гурчаць. *Мы дзе́лаем, кап пра́чка ні гурчэ́ла*. Заазер'е.

**ГРУ́ШЫНА** *ж*. Груша. *Адзі́н рой звіўся на гру́шыне*. Вялікі Азярэцк. *Гру́шына там стаі́ць, сла́ткая, во́сіньская*. Заазер'е. *Тры гру́шыны былі́, і я ні́чо́га ні прыла́дзіла*. Леснікова.

**ГРУ́ШШЫ** *прым*. Адрузлы. *Гру́шшы ліцо́ было́, гру́шшы*. Запруддзе.

**ГРЫБ** *м*. Грып (хвароба). *Я зъбале́ла грыбам*. Нямойта.

**ГРЫБ**, **ГРЫП** *м*. Грыб (расліна). *Пад е́лкай, пад ду́бам бу́дзе грыб*. Парэчча. *Са́мі пашлі́ ў ле́сі па грыба́х, мало́дзенькіе вару́шачкі, як капе́ечкі*. Міцюкова. *Грыбы́ патраві́лі ў лясу́*. Цясішча. *Ро́дзюцца грыбы́, як каро́ў па́сцілі ў лясу́*. Партызаны. *Пайдзём у лес у грыбы́*. Дольдзева. *Е́слі мно́га зо́рак на пе́рвую Каляду́, то мно́га грыбо́ў бу́дзіць* (прыкмета). Ракаў Засценак. *Грып е́ты бяру́шчы*. Багданава. ○ ГЛУХЕ́Я ГРЫБЫ́. Неядомыя грыбы. *Ніз'ядо́мыя грыбы́ мы завём глухе́я грыбы́*. Пожанькі. ○ ГРЫБ З-ПАД СНЕ́ГУ. Смаржок ці страчок. *Грып с-пат сне́гу*. Серкуці. ◊ (расці́) ЯК ГРЫ́БЫ <АТ ЦЁПЛАГА ДО́ЖДЖУ>. Расці хутка, непрыкметна (пра дзяцей). *Расту́ць тваé дзе́ткі як грыбы́ ат цёплага до́жджу*. Вялікі Азярэцк.

**ГРЫБ**, **ГРЫП** *м*. Грыбок-паразіт. *З'еў грыб ха́ту*. Савінічы. *Грып ха́ту есь-есь і з'йеў, з'есь усё*. Алексінічы. *Грыб^п у ха́ці завёўся*. Сянно.

**ГРЫБАСЕ́Й** *м*. Цёплы дробны дождж. *Грыбасе́й як імжа́чка такі́ дош, грыбы́ расту́ць*. Ракаў Засценак.

**ГРЫБІРО́ІТ** *м*. Руберойд. *Ха́та прыціка́ла, то купі́ў грыбіро́йіту і пакры́ў, а ў ха́ці шпале́рымі паклé́йіў*. Міцюкова.

**ГРЫ́БНА** *прысл*. Многа грыбоў. *Та́ма гры́бна*! Сянно.

**ГРЫБНІ́К** *м*. Грыбнік. *Грыбнікі́ цяпе́р абы-які́я грыбы́ рэ́жуць*. Вялікі Азярэцк. *Марціно́віч – бальшо́й грыбні́к*. Сянно.

**ГРЫБНЫ́** *прым*. Грыбны. *Цар грыбны́ – барві́к – заду́муў вуюва́ць*. Вялікі Азярэцк.

**ГРЫБО́К** *м*. Грыб-паразіт. *Не́йкі грыбо́к быва́іць, што валасы́ вылізá́юць*. Багданава.

**ГРЫБО́К** *м*. Ніжняя частка верацяна. *У вірцяне́ грыбо́к там*. Заазер'е.

**ГРЫБО́К** *м*. 1. Абабак. *Грыбо́к – гэ́та ба́бачка. Грыпкі́ – пра́вільная назва́нія*. Кавалі. *Са́ма грыпкі́ па мху расту́ць*. Рудніца. 2. Абабак чорны. *Грыпкі́ – чо́рнінькіе гало́ўкі, цвёрдыя, як зва́руцца*. Чуцькі.

**ГРЫБЫ́** *мн*. 1. *эмац.-ацэн*. Вусны. *Як я дам табе́ пъ грыба́х і ръзаб'ю́ табе́ к чо́рту*! Запруддзе. 2. *м*. Ніжняя губа ў жывёлы (авечкі). *У аве́чкі грып атарва́ў* [воўк]. *Грып у аве́чкі е́та*. Галашчакіна.

**ГРЫ́ВА** *ж*. 1. Касмык травы на пракосе. *Гры́ву аста́віў, так ня́ўме́ла ко́сіш*. Сукрэмна. *Як шыро́ка зъйма́юць касо́й, то гры́вы астаюцца, грэ́сці дрэ́нна*. Гарадзец. *Гры́ву пакі́нуў*. Розмыслава. 2. Паласа высокай травы на пракосе. *Астае́цца гры́ва –*

*пало́ска, як чо́лачка*. Нямойта. *Во късáр, што грыва стайі́ць пъ калéна*. Леснікова. *О, накасі́ў, за грыву мóжна прывізáць*. Міцюкова.

**ГРЫ́ВІСТЫ**, **ГРЭ́ВІСТЫ** *прым*. Нахілены. *Каласóк грывісты на аднý стóрану звíшшы*. *Грэ́вісты авёс на аднý стóрану звíшшы*. Міцюкова.

**ГРЫ́ЖА** *ж*. Грыжа. *Грыжа былá ў лéвум бакý*. Багданава. *Грыжу загавáрваюць, загръзáюць*. Партызаны. ○ ПУПАВА́Я ГРЫ́ЖА. Від грыжы. *Пупавýю грыжу загавóрваць нáда*. Жохава. *Пупавáя грыжа, пуп чуць ні развізáўся*. Кляпчэва.

**ГРЫ́ЖЫНКА** *ж*. Бручка. *Грыжынка завýць, што грызýць яé. Нъ ляхе ръслá жóўтъя, слáткъя. Стушыць, кýръчкі кусóк туды, аб'ясíся*. Сянно.

**ГРЫЗЬ**, **ГРЫСЬ** *ж*. Грыжа, жыравік, пухліна. *Інá грызь загрыжывала, сукí глядзíць* [на сцэнцы], *ля сукóў зъгавáрывала*. Заазер'е. *Грызь етá, я загрызла і зъгаварыла, інá стáла ўпраўляцца, на мéсяца ўстаўляцца. Знасíла да Тóдаса самá Вáсю, грысь загразáў у жывацé.* Багданава.

**ГРЫ́ЗЦІ** *незак*. Грызці. *Ваўкóў былó штук пяць, яны вылі і грызлі лясíну*. Багданава.

**ГРЫМЕ́ЦЬ** *незак*. Грымець (пра гром). *Калí грымíць ні на гóлы лес, тады харóшы ўраджáй* (прыкмета). *Пéрвы гром грымíць на гóлы лес нóччы – цяжысь людзям, у срэ́ду, пятніцу – балéзнь на скот, а ў аўтóрак – цяжысь людзям* (прыкмета). Каралевічы. *Як грымíць, то выкíдъвалі лъпáту*. Нямойта.

**ГРЫМО́ТЫ** *мн*., **ГРЫМО́ТА** *ж*. Грымоты, гром. *Як грымóты, хто кідáіць кáліва купáльный травы ў печ, у жар*. Мянюцева. *Сёлета грымóты ні былó. Узнялáся грымóта, спалíла дзве хáты.* Запруддзе.

**ГРЫ́ФЕЛЬНЫ** *прым*. Грыфельны. *Дóскі былí грыфельныя*. Ульянавічы.

**ГРЭ́БАВАЦЬ** *незак*. Грэбаваць. *Éслі вы не грэ́баеце, кýшайце*. Мянюцева. *Ня грэ́байце, як сумéю, бýду карміць. Ня грэ́байце чагó папíць*. Багданава.

**ГРЭ́БЕНЬ**, **ГРЭ́БІНЬ** *м*. 1. Шчотка, грэбень для апрацоўкі лёну. *На грэ́бень часáлі*. Апечкі, Буй. *Грэ́бінь такí здзéланы, гвóздзяў набíта мнóга, і часáлі, зрэ́бніна сабé, кýжаль сабé*. Марозаўка. *У грэ́бень гваздзёў набíта*. Карпавічы. *У грэ́бні гвóздзі набíты*. Чуцькі, Буй. *Грэ́бнім мáла хто часáў лён*. Закур'е. 2. Грэбень (у некаторых птушак). *Грэ́бень крáсьненькі ў кýрыцы*. Буй. *Грэ́бінь íлі чуп у курéй*. Вялікі Азярэцк. *Грэ́бень пъбялéў у пéўня*. Партызаны. 3. Канёк; востры верхні край, грэбень страхі. *Грэ́бінь – éта канёк з дасóк íлі з жэ́сці*. Гарадзец, Буй.

**ГРЭ́СЦІ**, **ГРЭ́СЦЬ** *незак*. 1. Грэбці (пра сена). *Як пóйдзім сéна грэ́сці, пяём*. Буй, Багданава. *Варóчаць, пóтым грэ́сці сéна бýдзем*. Вялікі Азярэцк. *Пашлí грэ́сці сéна*. Леснікова, Баравікі, Розмыслава. *Сéна грэ́сьць нáда і жаць нáда*. Серкуці. 2. Аграбаць рой. *Не аднэ́й рабóты – грэ́сці пчол*. Вялікі Азярэцк.

**ГРЭХ** *м*. 1. Грэх. *Людзі былí набóжныя, грэ́ху баялíся*. Запруддзе. *Забí змяю́ – грахóў мнóга скідáецца*. Вялікі Азярэцк. *Як саграшыш – у Калядыш рабóтаіш – éта грэх*. Фасаўшчына. *Ніхтó ні сціражэ́ць і ні вóзьміш нічóга, нéйкі грэх быў*. Гарадзец. *Ці баяцца цяпéр грэ́ху?* Заазер'е. *Грэх спýтъйіць*. Нямойта. *Крáлі, грэ́ху дýжа ні бъялісі*. Цясішча. 2. *прысл*. Грэшна. *Цяпéр, дзéткі, дóбра жывýць, грэх слóва сказáць*. Цясішча. ◊ ЯК НА ГРЭХ. Як на зло, на няшчасце. *Раёў не злавíла як на грэх*. Вялікі Азярэцк. *Як на грэх ніхтó ні станóвіцца* [у чаргу за некім]. Сянно.

□ *Рáда б душá у рай папáсь, а грахí ні пускáюць*. Багданава.

**ГРЭ́ЦКІ** *прым*. Грачаны. *Грэ́цку кáшу éлі з маълакóм*. Дуброўкі.

**ГРЭЦЬ** *незак*. Грэць. *Зімóй сóнца свéціць, ды не грэ́е*. Гарадзец.

**ГРЭ́ЧКА** *ж*. Грэчка. *Балá грэ́чка, прóса ня сéялі*. Міцюкова.

**ГРЭ́ШНА** *прысл*. Грэшна, дрэнна, шкодна. □ *І Бóгу грэ́шна і людзям смéшна*. Нямойта.

**ГРЭ́ШНЫ** *прым*. Грэшны. *Ня мóжна, ён грэ́шны*. Багданава. *Чым грэ́шны, такí і скíнеш, як заб'éш зьмяю́*. Запруддзе. *Грэ́шны чълавéк пръўрашчóн у буцянá*. Гарадзец.

**ГУБА́** *ж*. Губа (грыб), чага. *Мъладэ́й грыб нъ бярóзі – чáга, а як пъстарэ́йіць, тагдá губá*. Пожанькі. *На дзéраве грып такí губá, éта да кръсáла, прыкýрваеш з губы*. *Губá на*

*бяро́зе, зраза́ць ад ра́ка на лека́рства. Губа́ была́, се́клі яе́, у ле́се кала пнёў шука́лі.* Багданава. *Губу́ вы́мачыць, вы́сушыць, ска́ла – ка́мешкі панахо́дзяць, у ку́зьніцы здзе́лаіць агніво́ – трэць і загара́іцца.* Дольдзева. *Губу́ вары́лі, ат пня грып гэ́ты ва́рыш, тады́ мълатко́м ме́сіш, ён дзе́лаіцца як ва́та.* Жохава. *Губу́ вары́лі – з на́раслі бярэ́зіны – сушы́лі. Губа́ мя́ккая.* Каралі. *Губа́ расце́ць аддзе́льна, як ко́нскі капы́т. Губу́ вары́лі на крэ́сіва.* Серкуці.

**ГУ́БІНА** *ж.* Губа, вусны. *Я усё е́ту гу́біну куса́ла, як ем, так і укушу́.* Нямойта. *Гу́біна распо́хла так.* Запруддзе.

**ГУБІ́ЦЬ** *незак.* Губіць, знішчаць. *Жыво́га губі́ць нільзя́, пусць жыве́ць.* Серкуці.

**ГУ́БКА, ГУ́ПКА** *ж.* 1. Мера напрадзеных нітак (кудзелі), мера асновы ў кроснах. *Гу́бкі тры-чатыры-двана́ццаць, як напраду́ць.* Карпавічы. *На́да усе́ двана́ццаць гу́бак перапра́сць.* Запруддзе. *А гу́пка во: гэ́та бальша́я ха́та, так чэрас усю́ ха́ту – гэ́та гу́пка. У ка́ждай тру́пкі па тры гу́бкі, па тры сцяны́.* Багданава. *Ко́лышка ад ко́лышка – счыта́лася гу́бка.* Буй. *Гу́пка ад е́тага канца́ да таго́* [на памер сцяны]. Леснікі. *Дзве, тры гу́бкі снува́лі, а больш дзвіна́ццаці не.* Леснікова. *Гу́пкі снъва́ць ня ўме́йіць.* Закур’е. 2. Мера вытканага палатна. *Гу́пка – двана́ццаць, сем ме́траў пълатна́.* Сукрэмна. *Съткала адну́ гу́пку пълатна́.* Вялікі Азярэцк.

**ГУБЛЯ́ЦЦА** *незак.* Губляцца. *А яно́* [малако] *на ні́ве губля́іцца.* Фасаўшчына.

**ГУ́ҐАЛЬ** *м.* Хвошч. *Гу́ґаль у нас зва́лі, нападо́біі як гаро́х чо́рнінькі, для ско́ту.* Фасаўшчына.

**ГУ-ГУ** *выкл.* 1. Выгукі пры гуканні ў лесе. *Наро́ду у лясу́, то́лькі – гу-гу.* Апечкі. 2. Гукі, якія выдае кот у час марцавання. *Гудзе́ў, гудзе́ў гу-гу* [кот] *і бо́льшы ні прышо́ў.* Рулёўшчына.

**ГУДЗЕ́ЦЬ, ҐУДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Гудзець, гусці. *Перад дажджо́м гудзя́ць пчо́лы, ляці́ць у свой до́мік ка́ждая. У са́дзе пчо́лы ле́там гудзя́ць.* Вялікі Азярэцк. *Гудзі́ць рой.* Запруддзе. *Гудзя́ць і гудзя́ць но́ччу жукі́ ма́йскіе. Адку́ль жуко́ў – гудзя́ць, гудзя́ць, мо́жа, ў карма́нах закра́ўшыся.* Нямойта. *Як хъладне́й, крапчэ́й гудзя́ць* [пчолы], *ну бо́лі кърма́ упътръбля́юць.* Фасаўшчына. *Аш гудзя́ць, сто́лькі іх было́* [лазавікоў]. Дольдзева. 2. Утвараць гул з-за трэску, шуму (пры пажары). *Пъса́тка лі даро́гі гарэ́ла, стра́шна гудзі́ць, а я вы́шла і гляджу́.* Чуцькі. 3. Гаварыць самому сабе. *Палю́ ляху́ ды сама́ сабе́ гуджу́ і пла́чу: дзе яка́я ліха́я дзе́ўка твая́.* Дольдзева.

**ГУДЗЕ́ЦЬ** *незак.* 1. Узрушвацца (у перыяд цечкі). *Свіння́ гудзі́ць, е́сці ня во́зьміць, ні піць, ні е́сці.* Гарадзец. 2. Марцаваць (пра катоў). Рулёўшчына.

**ГУДЗЕ́ЧНІЦА** *ж.* Тоўстая доўгая кішка. *Гудзе́чніца – таўста́я длі́нная кішка́* [у свінні]. Парэчча.

**ГУЖЫ́** *мн.* Гужы. *Гужы́ ў хамуце́,* [імі] *запръга́юць кънця́. У кле́шчы зъця́гвъліся гужы́ з вяро́ўкі.* Гарадзец.

□ *Узя́ўся за гуш, ні гувары́, што ня душ.* Запруддзе.

**ГУ́ЖАМ** *прысл.* Гужам, чарадой, адзін за адным. *Ма́льцы бу́дуць хадзі́ць гу́жъм.* Каралевічы.

**ГУЗА́К, ГУЗЛА́К, ҐУЗА́К** *м.* 1. Гуз, нараст, пухліна. *Гуза́к вы́йдзіць с кула́к.* Багданава. *Тут у яе́ гузла́к зрабі́ў: так ён адбі́ў яе́. Пад грудзьмі́ быў гузла́к цвярды́.* Запруддзе. ГУЗЛАЧО́К *памянш. На наге́ быў гузлачо́к, за чатыры сіянсы разышо́ўся, і шэ́я пірастала скрыпе́ць.* Багданава. *Гузлачо́к на руцэ́.* Нямойта. 2. Камяк гразі, бруду. *Такі́я ґузакі́ нато́пчуць гра́зі па падло́гі.* Гарадзец.

**ГУ́ЗІК, ҐУ́ЗІК** *м.* Гузік. *Даўне́й бяз гу́зікаў руба́шкі шы́лі.* Каралі. *Ґу́зік драўля́ны быў, кручкі́ былі́.* Нямойта. *Ідзе́ш, на́йдзеш гу́зік з дзі́ркамі – аткі́нь у сто́рану, бо дрэ́нна бу́дзіць* (прыкмета). *Ушы́ў гу́зік* [на крывыя вечары], *пърасі́лься свіння́ – у аднъго́ пърасёнка бальшы́-бальшы́ глас.* Ракаў Засценак.

**ГУЗО́ЧЫК** *м.* Вузельчык з пятлёй. *Гузо́чык зъвя́зъвайіцца на кро́снъх і заву́ць гу́пка.* Закур’е.

**ГУКА́ЦЬ** *незак*. Аклікаць, зваць. *Клі́каць – гэ́та гука́ць, дзе далёка у ле́сі, клі́кай*. Багданава. *Гука́іць, кап ні зблудзі́цца, і ідзе́ць на го́лас*. Галашчакіна. *Ну й крыча́ць, гука́юць мяне́, я адгукну́лася*. Леснікова. *Ста́лі гука́ць яго́ ў лясу́ – ні тъзва́ўся*. Запруддзе, Серкуці. *Ой, стъя́ла Ле́нъчка пъд ляско́м, / Гука́ла па́пъчку гъласко́м* (з песні). Каралевічы.

**ГУКНУ́ЦЬ** *зак*. Пазваць, паклікаць. *Я яго́ гукну́ла, ён пашо́ў і паглядзе́ў*. Запруддзе. *Съба́ку гукну́лі ў ха́ту*. Міцюкова. *Там гукні́ яго́*. Нямойта.

**ГУЛДАЯ́ЧЫЦЬ**, **ГУЛЬДЫЯ́ЧЫЦЬ** *незак*. Невыразна гаварыць, кулдаячыць. *Дала́ тру́бку, ба́ба – гу, не́шта гулдая́ча*. Запруддзе. *Там ма́льцы бу́дуць гульдыя́чыць*. Партызаны.

**ГУ́ЛІ** *толькі мн*. Гулянка, вечарынка. *Як гу́лі, пяю́ць*. Марозаўка. *Бу́дуць нядзе́лю хадзі́ць, як які́я гу́лі*. Багданава. *Не́йкія гу́лі былі́, і та́я і друга́я гуля́ла*. Запруддзе. *Дво́е гу́ляў там гуля́ла, абвя́звалі мацер'я́лам на хрэ́сьбінах*. Нямойта. ГУЛЮ́ШКІ *памянш*. *Я была́ на гулю́шках, мълъда́я была́*. Апечкі.

**ГУ́ЛІНЫ** *толькі мн*. Тое ж. *Былі́ гу́ліны, я й гуля́ла, я й пе́ла*. Вялікі Азярэцк.

**ГУЛУБІ́КА** *ж*. Буякі, дурніцы. *Гулубі́ка бува́іць, сі́нія я́гады*. Нямойта.

**ГУЛУСУВА́ЦЬ** *незак*. Галасаваць. *Я раз гулусува́ла*. Каралевічы.

**ГУЛЬНЯ́** *ж*. 1. Гулянка, вечарынка. *Не́йкая ў іх гульня́ была́, пе́лі і скъка́лі*. Запруддзе. *Дзя́куй то́му кавалю́, што надзе́лаў нам гульню́* (з песні). *Як жы́та убяру́ць, гульня́ была́*. Запруддзе. 2. Гульні, забава. *Вянкі́ віллі́, пе́лі, на Купа́ла пе́сні ўсю ноч, гульня́*. Баравікі.

**ГУЛЬТА́Й** *м*. Гультай. *Гульта́й працава́ць ні лю́біць*. Буй. *О, ужо́ і гульта́й, ня хо́чыць дзе́лаць*. Дольдзева. *Гульта́й, рабо́тъць ня хо́чыць, кап пъ ха́тъх сядзе́ць*. Нямойта. *Ну, е́та то́лька гульта́й като́ры пръгуля́іць ле́та*. Заазер'е. *Та́мыцькі мъхъвікі́, рэш касо́й! Са́ма гульта́й грыбо́ў набярэ́ць*. Сянно, Міцюкова. *Гульта́й такі́, што і па́льцам не паъ шавеліць*. Дуброўкі.

**ГУЛЬТУЯВА́ТЫ** *прым*. Гультаяваты. *Гэ́тая нявестка гультуява́тая*. Нямойта.

**ГУЛЯВЫ́** *прым*. Свабодны, нічым не заняты. *Ка́ждый дзень мы гулявы́я ціпе́р*. *Ко́жны дзень мы гулявэ́я, то то́е, то то́е, рабо́ты німа́*. Багданава.

**ГУЛЯ́ННЕ** *н*. Гулянне, бяседа. *Въла́ зарэ́зълі, пърасёнка ўцягну́ў у хлеў і гуля́нне справі́лі*. Міцюкова.

**ГУЛЯ́ЦЕЛЬ** *м*. Гулец. *Я́ры гуля́цель у ка́рты*. Ульянавічы.

**ГУЛЯ́ЦЬ** *незак*. 1. Гуляць, нічога не рабіць. *Зімо́й гуля́й і бува́й, а ле́там лепш і гнілу́ю кало́ду грысці*. Дольдзева. 2. Гуляць, бавіць час у гульнях, на вечарынках. *Я бува́ла любі́ла пець і гуля́ць на вечары́нках*. Галашчакіна. *Я гуля́ла дзе́ўкъю, папры́дзім на йгры́шчы*. Запруддзе. *Ра́зам гуля́лі нъ та́нцах*. Леснікова. *Былі́ гуля́лі, у фа́нты гуля́лі, пацалу́і і тады́*. Заазер'е. *Гуля́ць к Рыма́ну у ха́ту ў Вялі́кім Сяле́ ўсё хадзі́лі. Яны́ хадзі́лі там, а мы са́мі гуля́лі*. Міцюкова. 3. Танцаваць, скакаць. *А як кадры́лю гуля́лі*. Галашчакіна. *Е́та не гуля́лі кадры́ль, за кадрыля́ю по́лька пайшла́*. Багданава, Кавалі. *Мы пы та́нцах хадзі́лі, там кадры́лю гуля́лі*. Партызаны. *Гуля́лі ў чаты́ры пары́ ці ў шэсць, во гуля́лі*. Закур'е. 4. Спраўляць вяселле, радзіны, провады і інш. *Адзі́н рас сва́дзьбу гуля́лі*. Галашчакіна. *У трэ́цюю субо́ту маладэ́я ўжо бацькі́ прыглаша́юць, пераздо́ўкі то́жа гуля́юць*. Запруддзе. *Як радзі́ны гуля́лі, то ба́бу ў начо́ўкъх ціга́лі, а лі кало́дзіша вадо́й аба́ллюць, смяю́цца, ве́сіла было́*. Партызаны. 5. Сябраваць, дружыць, заляцацца. *Гуля́іць сабе́ дзе́ўка, ні нъра́віцца ён, сабе́ хло́пца друго́га на́йдзіць*. Цясішча. 6. Пуставаць, быць незанятым. *Цяпе́р вы́гада, бох зна́іць радзі́ць і год-два гуля́іць*. Галашчакіна. 7. Веснаваць (пра свойскіх птушак). *Пяту́х, гуса́к, індзю́к абы́чна гуля́іць, і то́пчуць яны́*. Вялікі Азярэцк. 8. Пераліваецца, зіхацець (пра сонца). *Со́нца гуля́іць на пе́рвый дзень Па́скі, у Чы́сты чэ́цьвірг і на Благаве́шчанне*. Дуброўкі. ◊ ГУЛЯ́ЦЬ ЛІНЦЯ́Я. Нічога не рабіць, гультайнічаць. *Я бу́ду лінця́я гуля́ць*. Партызаны.

**ГУЛЯ́ШЧЫ** *прым*. Разбэшчаны, распусны. *Яна́ гуля́шчая, кру́ці́лася з усі́мі*. Запруддзе.

**ГУМЕ́ННІК** *м.* Цяля пэўнага ўзросту, якое гадуецца на выпасе на сенажаці. – *Які́ цялёнак? – Гуме́ннік, па гумну́ хо́дзюць. Во цялёнак бальшы́ – гуме́ннік, навя́зваюць во́дзюць.* Нямойта. *Цялёнак ёсь гуме́ннік, на гумне́ прывя́зуюць.* Хамінічы. ГУМЕ́ННІЧАК *памянш. Гуме́ннічък – як то́лькі нъвя́зываюць, ён ніку́ды ня хо́дзіць.* Леснікова.

**ГУМНІ́ШЧА** *н.* Частка двара з гаспадарчымі пабудовамі. *Гумні́шча – дзе ста́вяць пастро́йкі, хлеп там абмала́чывалі.* Нямойта.

**ГУМНО́** *н.* 1. Пляц, дзе размяшчаліся гаспадарчыя пабудовы, у тым ліку і будынак для складвання і малацьбы збажыны, а таксама прылеглая да іх частка сенажаці. *Гумно́ – е́та о́бшча, тут і пу́ня, ток, і ёўня, і кусо́к сінако́са.* Дольдзева. *Гумно́ – там по́жня, сърá й стаі́ць, ток.* Галашчакіна. *Се́на растраса́лі, сушы́лі, там пу́ня стая́ла і ток, і гумно́ называ́лася.* Леснікова. 2. Комплекс гаспадарчых будынкаў разам з месцам для малацьбы. *Ток, пу́ня, ёўня – усе́ ра́зам зва́лася гумно́. Гумно́ называ́лі, стая́лі там пу́ня і ток. Да вайны́ е́та было́. Ціпе́р амба́ры і́лі ток у калхо́зі. Пу́ня і ток нъзыва́ліся гумно́.* Гарадзец. *У ка́ждага сваё гумно́, свая пу́ня і ток там.* Самсоны. *Гумно́ – ме́ста нъзъва́лася, дзе ток, дзе склъда́лі дабро́, а пу́ня для се́на і ме́ста ля то́ку прусушы́ць се́на, снапы́. Гумно́ – дзе пу́ня стая́ла, ток, ёўня.* Алексінічы. 3. Прыгуменне, месца каля гумна, за гумном. *Гумно́ – ме́ста кала пу́ні, дзе склъда́лъся се́на.* Гарадок. *Цялёнка ў гумно́ вы́віў.* Манголія. *За гу́мнам сёліта бу́дзіць жы́та расьці́.* Серкуці. 4. Абгароджанае месца каля тока і іншых гаспадарчых пабудоў. *Ра́ньшы былі́ гу́мны – кала то́ку вы́гараджана ме́ста, гумно́ кала тако́ў.* Нямойта. *Гумно́ было́ вы́гъръджъна. Там быў ток, пу́ня.* Міцюкова. 5. Абгароджанае гаспадарчае месца, сенажаць. *Гумно́ касі́лъся, во́сінню аве́чку туды́ запру́ць, кътня́ пу́сьціш.* Серкуці. 6. Гумнішча; месца, дзе стаяла гумно. *Было́ гумно́, ме́сца, дзе было́ гумно́.* Гарадзец.

**ГУ́НЬКА** *ж.* Гунька; посцілка накрываць каня. *Гу́нька – е́та кънят накрыва́лі, як сва́дзьба у каго́ ці што.* Алексінічы. *Гу́нькі, дзяру́гі ткалі. Гу́нькай къня́ накрыва́лі.* Манголія. *На ко́нях ша́рыкі брыжджа́ць, пасці́лачкі, гу́нькі пъсла́лі.* Багданава.

**ГУРО́К** *м.* Агурок. *Ко́памі пръдава́лі гуркі́.* Вялікі Азярэцк, Гарадзец. *У маладзіку́ ста́вюць ве́нік на ляху, штоб раслі́ гуркі́* (прыкмета). *Гуркі́ со́дзяць на Пахо́ма.* Вялікі Азярэцк. *Гуркі́ со́дзяць у субо́ту, як у ба́ні мушчы́ны мы́юцца, у панядзе́лак – каб пе́рвы цвет быў.* Чуцькі. *Дай пайду́ выбіра́ць гуркі́.* Запруддзе. *Гуркі́ ў се́нцах стая́ць акале́ўшы, сма́ку няма́ цяпе́р на іх.* Закур’е. ГУРО́ЧАК *памянш. На крапіве́, як гуро́чкі жо́ўтыя, ураджа́й на гуркі́ бу́дзіць* (прыкмета). Партызаны.

**ГУРО́ШНІК** *м. зб.* Агурочнік. *Гуро́шнік убра́ла.* Міцюкова.

**ГУ́РТАМ** *прысл.* Гуртам, разам. *Вы гу́ртам выступа́йце.* Закур’е.

**ГУРТУВА́ЦЬ** *незак.* Гартаваць (жалеза). *Гуртува́ць – е́та ў ку́зніцы, е́та нажы́ бу́дзіць во́йстрыць, загарто́ваіць.* Сукрэмна. *Жале́за гуртува́лі, згуртува́ў.* Манголія.

**ГУСА́К** *м.* 1. Гусак. *Усе́ гусакі у мяне́.* Манголія. 2. *перан.* Бутля на тры або пяць літраў з вузкім горлам. *Гуса́к нъ пяць лі́търъў.* Дольдзева. *Трохлітро́вы гуса́к.* Савінічы. *Мы бу́тлі называ́лі гусакі́.* Фасаўшчына.

**ГУ́СЕНІЦА** *ж.* Вусень. *Гу́сініцы капу́сту яду́ць.* Турава.

**ГУ́СІ** *мн.* Гарлачыкі (кветкі). *Гу́сі бе́лыя, жо́ўтыя на азяро́.* Самсоны.

**ГУ́СІНА**, **ГУ́СІНЯ** *ж.* Гусь, гуска. *Адна́ ў цябе́ гу́сіна, ляжыць распласта́лася.* Каралевічы, Манголія. *Ку́рыца, гу́сіня й індзю́к ро́ўныя, а мя́са цэ́ніцца па-ро́знъму.* Фасаўшчына.

**ГУСІ́НЫ**, **ГУСІ́ННЫ** *прым.* Гусіны. *Е́та гусі́ны жыр.* Дольдзева. *Гусі́ннае са́ла з гуся́.* Багданава. ○ ГУСІ́НЫЯ ЛА́ПКІ. Гусялапка (?). *Спары́ш і ла́пкі гусі́ныя о́чань яду́ць хърашо́ сві́нні.* Серкуці.

**ГУ́СТА** *прысл.* Густа. *Наза́ўтра кало́ціш, падліва́іш вады́, як гу́ста, ва́рыш разы́ два-тры, каб закіпе́ла. Гу́ста се́іш, а рэ́дка ўсхо́дзіць.* Багданава.

**ГУСТАТА́** *ж.* Густата. *Да густаты́ дзе́лалі.* Багданава.

**ГУСТЫ́** *прым*. 1. Часты, густа пасаджаны. *Густы́ сат, садзі́лі здаеўца рэ́тка*. Кляпчэва. 2. Круты, густы. *Густы́ суп чараз лó́жку*. Багданава. ГУСЦЕ́НЬКІ *памянш*. *У дзягно́ – цыбу́лі, часначы́ну, яно́ тады́ гусце́нькае*. Багданава.

**ГУСУДА́РСТВА** *н*. Дзяржава, краіна. *І для гусуда́рства нядрэ́нна было́ п, і для калхо́за*. Гарадзец.

**ГУСЦЕ́ЧА** *ж*. Гушчар, гушчыня. *Гусце́ча – як густэ́й лес ці тръва́. Гусце́ча тъка́я – не мо́жна прале́сці*. Кішуроўшчына.

**ГУСЦЕ́ЙШЫ** *прым*. Больш густы, не пульхны (пра хлеб з крутога цеста). *Гусце́йшы хлеб бо́лей сядзі́ць*. Чуцькі.

**ГУСЦЕ́Ш** *м*. Адтопленае малако. *А там ужо́ ўсё: і сы́рватка, і гусце́ш*. Багданава.

**ГУСЦЮВА́ННЕ** *н*. Гасцяванне, пачостка. *Гасці́лі ў яе́, было́ харо́шыя гусцюва́ння*. Запруддзе.

**ГУСЦЯРА́**, **УСЦІРА́**, **ГУСЦІРА́** *ж*. Гусцяра; рыба, знешне падобная на ляшча. *У во́зеры во́дзяцца шчу́кі, акуні́, гусцяра́. Усціра́ сухаллё тако́я, суха́я, худа́я, шырэ́й пло́ткі. Усціра́ – кра́снінькая пёрушка*. Багданава. *Гусціра́ – худа́я пло́тка, такі́ сорт. Късгля́вая, шырэ́й пло́ткі і худзе́й. Падо́бна нъ лішча́, бізуку́снъя рыба, насле́дні сорт рыбы*. Сянно.

**ГУСЯ́ТНІК** *м*. 1. Гусялапка, драсён птушыны. *Гуся́тнік – дро́бненькі, длі́нна цягне́цца*. Гарадзец. *Па́рыць гуся́тнік і піць ра́йіла ба́ба*. Сянно. *Гуся́тніку мно́га на лясе́, палю́, аш па́льцы баля́ць*. Сукрэмна. *Гуся́тнік яду́ць сві́нні*. Запруддзе. 2. Пырнік. *Гуся́тнік караністы, даўго́е карэ́нне, ся́нні парве́ш, а за́ўтра ізно́ў вы́расла*. Багданава. *Гуся́тнік карня́сты, нібальшэ́нькі*. Каралі.

**ГУСЯ́ЦІНА** *ж*. Гусяціна. *Гуся́ціна была́, гу́сі былі́*. Вялікі Азярэцк.

**ГУТАТА́-ГУТАТА́** *выкл*. Гукі, якія суправаджаюць гушканне на арэлях. *Калыхні́це высо́ка-высо́ка, / Каб увідзе́ць далёка-далёка – / Гутата́-гутата́* [на Масленіцу гушкаюцца і пяюць]. Міцюкова.

**ГУ́ТАЦЦА** *незак*. Гушкацца. *На Ма́слянку гу́таімся дзень на вяро́ўках у пу́ні. Гу́таімся у пу́ні, пяём*. Міцюкова. *І тады́ мы гутата́-гутата́ – калы́шымся, калы́шымся* [на арэлях]. Самсоны.

**ГУЦІ́ЦЬ** *незак*. Спецыяльна скарыстоўваць салому для гною. *Сало́мы было́, то ён і гуці́ў сало́му у гной, пътсціла́ў*. Баравікі.

**ГУШКА́ЦЬ** *незак*. Гушкаць. *Я ду́мала маю́ пляме́нніцу заб'іцё – гушка́іце, гушка́іце. Гушка́лі, гушка́лі так вісо́ка*. Партызаны.

**ГУШЧЭ́Р** *м*. Гушчар, гушчыня. *Гушчэ́р, грыбо́ў німа́, я́гад німа́*. Баравікі.

**ГЫ́РКАЦЬ** *незак*. Груба размаўляць. *Яна́, хале́ра, усё гыр-гыр з людзьмі́, усё гы́ркала*. Запруддзе. ГЫР-ГЫР. Гаварыць адрывіста, пагрозліва, падобна на гырканне сабакі. Запруддзе.

**ГЭЙ** *выкл*. Гэй. *Гэй, гэй, Ва́ська, дзе ты дзе́ўся? Цяпе́р гра́матныя пяю́ць – гэй-гэй*. Ракаў Засценак.

**ГЭ́ЙКНУЦЬ** *зак*. Падаць голас (пра чалавека). *Гэ́йкнуў – го́лас пада́ў*. Нямойта.

**ГЭ́НЫ**, **ГЕ́НЫ** *займ*. Гэты, гэны. *У гэ́ным во́зеры купа́цца не́як. Гэ́ны асі́ннік у пе́чы згары́ць*. Закур'е. *Як бы ге́ныя жылі́, то было́ п ле́пій, але́ пръдалі́ ха́ту, паеха́лі*. Кішуроўшчына. *Ге́най вады́ холо́нной хачу́. І ге́ну ха́ту збіра́ўсі шчакату́ркуй* [абабіць]. Неўгадава.

**ГЭ́СТЫ**, **Е́СТЫ**, **ГЕ́СТЫ**, **Э́СТЫ** *займ*. Гэты. *З гэ́стага бо́ку не про́йдзеш, з таго́ – про́йдзеш*. Закур'е. *Жыве́ш з магазі́на із ге́стага. Варэ́нне ду́жа ўку́снае з ге́стых адува́нчыкаў*. Багданава. *Церас паро́г ге́сты не падніму́ но́гі*. Жохава. *З ге́стых лясо́ў апе́нак пацяга́лі – з Мака́ўя, Тукаўца́, Чапе́ліна*. Нямойта. *Сыйшла́ся з е́стым і ста́ла жыць у чужо́й сям'і́, у дурнэ́й*. Алексінічы. *З е́стых ні́так з магазі́нных вяза́лі падзо́рнікі*. Запруддзе, Каралі, Карпавічы, Кляпчэва, Латыгаль, Леснікова, Нямойта, Розмыслава, Сукрэмна, Ульянавічы. *Ён прышо́ў іс э́стага іс нашле́гу*. Нямойта.

**ГЭ́ТА**, **Е́ТА**, **ГЭ́ТТА**, **ГЕ́ТА**, **ЭТА** *часц*. Гэта. *Гэ́та саўсі́м мыша́к*. Гарадзец, Вялікі Азярэцк. *Дык гэ́та гэ́дак: на́да гро́шы даць*. Гарадзец. *Гэ́тта няма́ хат, паўміра́лі, ла́пікі*

**КУ́БЛІШЧА** *м.* Памяшканне для сена. *Ку́блішча – е́та быў не́йкі склат для сянны́.* Буй.

**КУВА́ДЛА** *ж.* Кавальскі молат. *Мо́лат ілі́ кува́дла: адзі́н бальшы́, а другі́ малы́ адзіно́чны, кілаграмо́вы, а бальшы́ – пяць кілагра́м.* Жохава. *Намётачку нясе́ць без мо́лата, без кува́дла. Кува́дла зьдзе́лаў нам дзіця́ ла́дна.* Чуцькі. *Біз малатка́, біз кува́дла / Паглядзі́м, яко́е дзіця́ ла́дна* [з песні]. Леснікова. *Біз малатка́ і біз кува́дла – і тако́я дзіця́ ла́дна* [з песні]. Запруддзе.

**КУВА́ЦЬ** *незак.* 1. Выкоўваць з жалеза розныя прылады. *Яўрэ́і кува́лі ў ку́зні.* Дольдзева. 2. Падкоўваць, акоўваць. *Цяпе́р не кую́ць кътня, далёка ніку́ды ня е́дуць.* Міцюкова. *Кува́ць каня, як зако́н быў, на чаты́ры нагі́.* Ульянавічы.

**КУДА́КТАЦЬ** *незак.* Кудахтаць. *Куда́ктаюць ку́ры пасьля яйца́.* Багданава. *Ку́рыца сако́чыць як з яйцо́м, як знясе́цца – куда́кчыць. Іна́* [курыца] *ка́жын дзень сако́чыць, куда́кчыць, зьнісла́ся і куда́кчыць.* Вялікі Азярэцк. *Када́ яі́чкі ку́ры зьнясу́ць, куда́кчуць.* Багданава.

**КУДЗЕ́ЛІЦА** *ж.* Кудзеля; валакно для прадзіва. *Чы́кі-чы́кі / Маґе́ра на пры́печку сядзе́ла, / Кудзе́ліцу вярце́ла, / Кудзе́ліца упа́ла – / Маґе́ра прыпа́ла* (з песні). Багданава.

**КУДЗЕ́ЛЯ** *ж.* Тое ж. *Былі́ дра́чкі: дасо́чка, набі́та гваздзе́й, апшліфо́ваны харашо́, і апчо́сываіш лён, пасканню́, і называ́лася кудзе́ля.* Дольдзева. *І́ншы пры́дзіць, запа́ліць кудзе́лю* [на супрадках]. Запруддзе, Гарадзец, Каралі. КУДЗЕ́ЛЬКА *памянш.* *Ку́жель – гэ́та са́мы чы́сты лён, тады́ кудзе́лькі дзе́лаюць.* Вялікі Азярэцк. *То́лькі мне гро́шы, што кудзе́льку спрадзе́ш да прадасі́.* Ракаў Засценак, Буй.

**КУДЛА́ТЫ** *прым.* 1. З доўгай поўсцю. *Ба́чу йдзець кудла́ты бабёр і пашо́ў у калдо́бінку.* Багданава. 2. Валасаты. *Кудла́ты, ужо́ і валасы́ ні прычаса́ў, хо́дзіць, як кучма́. Кудла́ты, касма́ты, заро́с ужо́* [хлопец]. Багданава.

**КУДЛУВА́ТЫ** *прым.* Касматы, лахматы, апушаны. *Вуўня́нкі кудлува́тыя ізрытка́ ёсь.* Галашчакіна.

**КУ́ДЛЫ** *толькі мн.* Доўгія непрычэсаныя валасы. *Другі́ ідзе́ць аж ку́длы нъ въратні́к, а бъда́й ты!* Алексінічы.

**КУДРА́ВЫ** *прым.* *перан.* Густаваты, наварысты. *Суп кудра́вы, ну, такі́ сма́чны, гу́сценькі.* Багданава.

**КУДЫ́** *прысл.* 1. Куды. *А куды́ ты ідзе́ш?* Запруддзе. *А ґімо́рнічаюць дзе́ўчынкі, ско́лькі трэ́ба ко́ждуй по́льтуў, а мне куды́ іх?* Нямойта. 2. *часц.* *Хо́чуць уткну́ць яго́ хоць куды́, у мъсцярске́я.* Запруддзе.

**КУ́ЖАЛЬ** *м.* 1. Кужаль; ачышчанае валакно лёну. *Ку́жаль – гэ́та са́мы чы́сты лён.* Вялікі Азярэцк. *Ку́жаль – е́та з лёну, а што вы́чашуць – зрэ́б'я.* Заазер'е. *А ку́жаль мо́жна было́ то́нка спра́сці.* Марозаўка. *По́слі дра́чкі – шчо́ткамі шчо́сывалі, нідзе́ ні кастры́нкі, блі́сціць, э́та ку́жаль. Снача́ла атрэ́п'я, пато́м зрэ́б'я і ку́жаль.* Дольдзева. *Ка́стра ляці́ць са льна, астае́цца ку́жаль.* Багданава. *Ку́жаль быў, а зрэ́б'я аддзе́льна.* Запруддзе. 2. Прадзіва. *Ку́жаляў на́да напра́сці.* Багданава. *Ды я нъпра́ла ку́жалю.* Нямойта. *Ма́ма напра́ла дзе́вяць гу́бак зрэ́б'я і двана́ццаць ку́жалю.* Запруддзе. 3. Палатно (з часанага лёну). *Ку́жаль – е́та на руба́шкі ткалі, а с ізрэ́б'я – пасці́лкі.* Каралі. *С ку́жалю руба́шкі, пасці́лкі былі́.* Дуброўкі.

□ *Ку́жаль дале́жыцца шо́ўку, а во́ўна дале́жыць го́ўна.* Закур'е.

**КУЖЭ́ЛЬНЫ**, **КУЖЭ́ЛНЫ**, **КУЖЭ́ЎНЫ** *прым.* Кужэльны; зроблены з кужалю. *Руба́шкі кужэ́льные шы́лі. Кужэ́ўные дзе́ўкі руба́шкі насі́лі.* Буй. *Дзвіна́ццъць гу́бъчък, чаты́ры скуту́ кужэ́лных.* Чуцькі. *Кужэ́лная палатно́, яго́ спрадзе́ш, патчэ́ш, то́нінькая.* Заазер'е. *Кужэ́лныя лу́гъм мы́лі, паркалёвага ма́ла было́.* Неўгадава. *Кужэ́лная, сваёй рабо́ты* [рубашка], *са́мая лу́ччая.* Багданава.

**КУ́ЗІЛ** *м.* Гуз. *А-я-яй ку́зіл які́ быў!* Багданава.

**КУЗНЕ́Ц** *м.* Каваль. *Кузняцы́ дзе́лалі фаэто́ны.* Дуброўкі.

**КУ́ЗНЯ** *ж.* Кузня. *Вот, ка́іць, ку́зня стъя́ла, то́я ме́ста.* Запруддзе. *У ку́зню цігаўся, распо́хніць рука́, нядзе́лю, дзве – ня йдзець.* Каралі. *Кълясо́ ако́ўваецца ў ку́зні.* Гарадзец.

**КУ́КА** *ж.* Вялікі драўляны молат для глушэння рыбы. *Ку́кі ры́бу глушы́ць*. Багданава.

**КУКАВА́ЦЬ**, **КУКУВА́ЦЬ** *незак.* Кукаваць (пра зязюлю). *Быва́ла а-я-я́й як зязю́лі кукъва́лі, а цяпе́р рэ́тка*. Партызаны. *Як до́ўга і блі́ска кала дзярэ́ўні кукуі́ць куку́шка, бу́дзіць пако́йнік* (прыкмета). Розмыслава. *Зязю́ля да Пітра́ кукуі́ць*. Малы Азярэцк. *Хоць куку́й, ні куку́й, зязю́ля, / Нямно́шка цябе́ кукува́ць, / З Вялі́кадня да Пятра́, / З пятро́вай но́чанькі – ні аднаго́ дня* (з песні). Вялікі Азярэцк, Запруддзе. *Да Пятра́ зязю́ля кукуі́ць, а да Пятра́ ні дня*. Міцюкова. *А як то́лькі пачына́іць кукува́ць зізю́ля, то красі́ва*. Гарадзец. *Зязю́ля ду́жа ні кукува́ла*. Ракаў Засценак. *Ці чуў куку́шку? Куку́ець, тады́ гро́шы на́да насі́ць у карма́ні* (прыкмета). Міцюкова.

**КУ́КАЛЬ** *ж.* Куколь (расліна). *Ку́каль і гу́ґаль – э́та адно́ і то́я, як хто ска́жыць*. Фасаўшчына.

**КУ́КІШ** *м.* Фіга. *Ку́кіш – э́та хві́гу даў*. Фасаўшчына. *Мне со́дзіць ку́кіш пад нос*. Дольдзева. *Ку́кіш кру́ціць*. Багданава. ◊ КУ́КІШ ТАБЕ́! Зусім нічога не атрымаеш. Гарадзец. ◊ С КУ́КІШ. Невялікі, маленькі. Дольдзева.

**КУ́КЛА** *ж.* 1. Жаночая прычоска. *Ку́клы дзе́лалі – въласы́ сці́снуць, закру́цюць і шпі́лек нато́ркаюць. Іству́шку ў касу́, ку́клы круці́лі*. Гарадзец. 2. Звязаны пучок нязжатых каласоў, што пакідалі ў час дажынак жыта. *Скру́ціш ку́клу і астае́цца на по́лі*. Гарадзец. *Ку́клу астуўля́лі на по́лі на Купа́лу, па ёй туды́ ба́бу яку́ю здаро́ваю къча́юць, кап жы́та на ле́та было*. Вялікі Азярэцк. 3. Звязаны пучок жыта, які аддзяляе адну постаць жыта ад другой. *Як апхо́дзіць по́стаць, зъвя́зваеш ку́клу*. Гарадзец. 4. Скрутак; хатулёк. *Вазмём у ку́клу со́лі, хле́ба, кро́шку са́ла і тры къвылі́ны, тры жыці́ны, тры къласы́*. Багданава.

**КУ́КНУЦЬ** *зак.* Пракукаваць адзін раз. *Мо́жа яшчэ́ ку́кніць рас зязю́ля*. Ракаў Засценак.

**КУ́КСА** *ж.* Кукса; астатак пакалечанай рукі. *Ку́кса – е́слі нямa ладо́ні*. Фасаўшчына. *Аднару́кі – ку́кса ў сусе́да*. Багданава.

**КУКШЫ́Н** *м.* Збан. *Цэ́лы кукшы́н яе́ц назбіра́ла*. Рассвет.

**КУКУ́ЛЬКА** *ж.* Зязюля. *Куку́лька так ні кукуі́ць*. Багданава.

**КУКУРА́ЧКІ** *мн.* ◊ НА КУКУРА́ЧКІ. Сагнуўшы ногі ў каленях. *На кукура́чкі сеў*. Дольдзева.

**КУКУ́ШКА** *ж.* Зязюля. *Як то́лькі куку́шка вы́ведзіць дзяце́й, браса́іць*. Розмыслава. *Як не з пусты́м карма́нам куку́шку пачу́еш – век бу́дуць гро́шы* (прыкмета). Нямойта. *Шла куку́шка мі́ма ле́са, / А за не́ю два балбе́са / Кук-мак, убіра́й адзі́н кула́к* (дзіцячая лічылка). Станюкі.

**КУКУ́ШКА** *ж.* Плямістая зязюлька (расліна). *Куку́шка сі́ненькім цвіце́ць, аста́неццa таўка́чык. Іна́ па по́жнях расце́ць*. Нямойта.

**КУЛА́ГА** *ж.* 1. Саладуха. *Кула́га – гэ́та ржану́ю муку́ гу́ста разме́шваюць, лёд ло́жаць і паме́шваецца, пастя́вяць на загне́цце і саладжа́іць, прыкі́снець, ві́дна, сла́дкая, вары́лі ў пе́чы*. Міцюкова. *Аржаня́ мука́ і лёду, кула́га ўсаладжа́ець, укі́снець і ва́руць*. Марозаўка. 2. Густазвараная і падкалочаная страва з ячменых круп, бульбы і мяса. *Бу́льбы начы́сцюць, ячме́нныя кру́пы ўсы́пюць, мя́са кро́шку і ў печ. Яно́ там ува́рыцца, калато́ўкай пакало́цяць, кула́га густа́я ста́нець і сма́шна*. Гарадзец.

**КУЛА́К** *м.* Кулак; багаты селянін-уласнік. *Во́сім гікта́раў зямлі́ было́, які́ ён кула́к*. Буй. *У бага́тых кулако́ў служы́ла*. Самсоны. *У нас кулакі́ які́я былі́: хадзі́лі ў ла́пцях, у бе́лых штаня́х*. Заазер'е. *Кула́к крэ́пкій, жыве́ць до́бра – так къза́лі*. Запруддзе.

**КУЛА́К** *м.* Кулак; кісць рукі з прыгнутымі да далоні пальцамі. ◊ КУЛАКО́Ў НАДАВА́ЦЬ. Наштурхаць пад бок. *Кулако́ў нъдъва́ў – э́та пад бок*. Фасаўшчына.

**КУЛАМЕ́С**, **КУЛАМЕ́Х** *м.* Неразбярыха, беспарадак. *Ай, здзе́лалі такі́ кулaме́с, ніразбяру́ха*. Нямойта. *Во здзе́лалі кулaме́с, лю́дзі кулaме́сяцца* [аб вялікай чарзе]. Заазер'е. *Лю́дзі, быва́юць, у ку́чу сы́йдуцца, як кулaме́с здзе́лаюць, скулaме́сяцца*. Багданава. *Гуля́лі кадры́лю, кулaме́с такі́*. Чуцькі. *Кулaме́х тут быў цэ́лы*. Багданава.

**КУЛАМЕ́СІЦЦА** *незак.* Штурхацца ў натоўпе. Заазер'е.

**КУЛДЫ́ЧЫЦЬ** *незак.* Кракаць (пра качак). *Кулды́чуць – е́сці хо́чуць*. Запруддзе.

**КУ́ЛЕМ** *прысл.* Вельмі хутка, мігам. *Наллю́ дзя́дзьку вады́, а сам ку́лем з ку́зні. Лю́дзі ку́лем ад яе́. Сама́ ку́лем к собе́ на двор, к свіня́м.* Каралевічы.

**КУЛЕ́ЎЕ**, **КУЛЕ́ЎЯ** *н. зб.* Кулі (пра снапы). *Куле́ўя цаліко́м палі́лі, усто́ркнуць на кол куль і па́люць* [на Купалле]. Каралевічы. *Бува́ла мълако́ було́ па рэ́зі і бабо́ўніку. Куле́ўя пъсяку́ць, а тады́ зъпа́руць жа́ркуй вадо́й і пасо́люць, жме́ню со́лі туды́. Мълако́ хаце́лі* [так кароў кармілі]. Чуцькі.

**КУЛЕ́Ш** *м.* 1. Посная мучная страва. *Закалаці́лі харо́шы куле́ш с харо́шай мукі́: пръме́рна чыгуно́чак вады́ і прыго́ршч мукі́.* Нямойта. *Ра́ньшы куляшу́ пъясі́ і крычы́ш* [пяеш]. Дольдзева. 2. Звараная і падкалочаная мучная страва, у якую дабаўлялася закраса (бульба, сала, каўбаса і інш.). *Куле́ш вары́лі с пшо́ннай мукі́: карто́шкі пакрышы́ць, зва́рыцца, пакалаці́ць карто́шку, раскалаці́ць і нямно́га туда́ мукі́ пшо́ннай усы́паць і пакалаці́ць, зва́рыцца і пато́м туды́ са́ла, калбасы́.* Жохава. *Въда́ кіпі́ць, муку́ сы́піш, кало́ціш кълато́ўкъй, пато́м зъпра́віш – вот і куле́ш.* Кішуроўшчына. 3. Страва, прыгатаваная з маладога жыта. *Жы́та храп-храп гало́вак і ў кішэ́ню, куле́ш зва́рыш зелёны.* Запруддзе, Вялікі Азярэцк, Гарадзец, Заазер’е, Цясішча. 4. Корм для свойскай жывёлы. *Куляшу́ звару́ парася́там, на два дні мярку́ю.* Партызаны. *Хле́ба размо́чыш, куляшу́ навару́, тро́ху бу́льбы, тро́ху мукі́ парасёнку.* Багданава. КУЛЯШО́К *памянш. У Каля́ды куляшо́к вары́лі.* Багданава.

**КУЛЁК** *м.* Кароткі пінжак з даматканага матэрыялу. *Кулькі́ с кърма́намі, карма́ны прамэ́я, то́лькі суко́нны варатні́к.* Каралі. *Кулёк быў ране́й, пінжа́к цяпе́р.* Фасаўшчына. *Кулёк, пінджа́к – каро́ткія, а длі́ны – армя́к.* Гарадзец. *Я й сама́ насі́ла кулёк, тка́лі, а партны́ тады́ шыў. Кулёк надзе́ніш наве́рх, біс патклаа́ткі.* Багданава.

**КУ́ЛІК**, **КУЛІ́К** *м.* Кулік (птушка). *Ку́лікі на бало́ці жыву́ць, нібальшы́я, ме́ньшы гулуба́.* Нямойта. *Кулíко́ў, журавéй бы́ла, ву́тък.* Багданава.

□ *Ка́жны кулі́к свае́ бало́та зна́іць.* Вялікі Азярэцк. □ *Кулі́к куліка́ ві́дзіць здаліка́.* Вялікі Азярэцк.

**КУ́ЛІКІ**, **КУЛЮКІ́** *мн.* Круглыя маленькія булачкі, якія пяклі на Саракі. *Нъ Съракі́ ку́лікі пяклі́ і дзе́ці е́лі.* Партызаны. *Кулюкі́ пяклі́ свае́ рабо́ты з мукі́ пшані́чнае.* Дольдзева.

**КУЛІНАРЭ́Я** *ж.* Кулінарыя. *У кулінарэ́ю прывéзлі ку́ры.* Нямойта.

**КУЛЛЯ́ВЫ** *прым.* Кульгавы. *Та́я кулля́вая Со́нька, крыва́я нага́ ў яе́.* Вялікі Азярэцк.

**КУЛУПА́ЦЦА** *незак.* Корпацца. *Прые́дзіць ён і бу́дзіць кулупа́цца і кулупа́цца.* Багданава.

**КУЛУПА́ЦЬ** *незак.* Марудна вышываць. *Тро́ху кулупа́ла хрэ́сцікам па канвé.* Запруддзе.

**КУЛЬ** *м.* 1. Сноп адборнай саломы. *Сало́му трасу́ць нъ кулі́, кулі́ трасу́ць.* Каралевічы. *Куля́мі кры́лі, і стая́ла крэ́пка ха́та.* Запруддзе. *Малаці́лі цэпа́мі, кульмі́ траслі́. По́слі вайны́ пласта́мі салам́янымі кры́лі, кулёў ні было́.* Леснікова. 2. Вялікі сноп трасты лёну. *Куль лёну як падыма́іш яго́, а ён яшчэ́ ня вы́ліжыцца. Як пъдъма́юць лён, то вя́жуць у пъра́дъшныя кулі́.* Вялікі Азярэцк. *Вя́жам у кулі́ лён.* Карпавічы. *Назбіра́ю, звяжу́ кулі́ і скі́ну.* Партызаны, Серкуці. *Ба́бачкі вя́жам у кулі́. Рука́мі кулі́ вытраса́лі, тады́ кры́юць пад шчо́тку.* Закур’е.

**КУЛЬГА́ВЫ** *прым.* Кульгавы. *Кульга́вы, прыхра́мваець.* Гарадзец. *Кульга́вы, а бо́лій-ме́ній і про́йдзіць ско́лькі там на́да.* Багданава.

**КУЛЬГА́ЦЬ** *незак.* Кульгаць. *Іду́, кульга́ю, ну, тады́ не́міц ка́жыць: варо́чайся. Іна́ шла, усё кульга́ла.* Леснікова. *Кульга́іць з наго́й, усі́ но́гі чо́рныя.* Запруддзе. *Та́я ба́ба кульга́іць.* Гарадзец. *Нага́ балі́ць, кульга́ю.* Фасаўшчына, Багданава.

**КУЛЬГІ́К-КУЛЬГІ́К** *выкл.* Ісці кульгаючы. *Сама́, дра́жнючы яго́, – кульгі́к-кульгі́к.* Нямойта.

**КУЛЬДА́ЦЦА** *незак.* Кульгаць. *Ён жа мале́нькі кульда́еццa, нъга́ яго́ пра́въя шло́пъіць. У яго́ пі́лъй парэ́зъна жы́ліна, падрэ́зъна «Дру́жбъй»* [бензапілой]. Запруддзе.

**КУЛЬДЫ́К-КУЛЬДЫ́К** *выкл.* Вагацца (пра бляху). *Кульды́к-кульды́к бля́ха, а кры́са блясь з бля́хі. Смалля́нкі бля́ху кульды́к-кульды́к – і брэсь.* Парэчча.

**КУЛЬКО́М** *прысл*. Кулём. *Ён кулько́м з пе́чы звалі́ўся*. Нямойта.

**КУЛЬ-КУЛЬ-КУЛЬ** *выкл*. Выгукі, якімі падзываюць індыкоў. *Куль-куль дамо́й. Бальшэ́я расту́ць індзюкі́*. Жохава.

**КУЛЬДА́ЦЦА** *незак.* Куляцца, перакульвацца. *Як пе́ршы гром, кульда́юцца тры разы́. Кульда́цца на́да іці́ на лух.* Запруддзе.

**КУЛЬМАНЫ́**, **КУЛЬМА́НЫ** *толькі мн*. Гулянне, складчына. *Кульманы́ або́ скла́тчына зва́лі*. Дольдзева. *Як дажына́юць жы́та, кульманы́ дзе́лаюць* [гулянне], *барана́ ва́руць, гарэ́лку п'юць. А днём як прыду́маім, кульма́ны здзе́лаць*. Запруддзе.

**КУЛЬНУ́ЦЦА** *зак*. Упасці, паваліцца. *Кульну́ўся гълаво́й*. Фасаўшчына. *Конь атпро́гсі – малады́ туды́ кульну́ўсі, а яна́ туды́, дык ско́ра ён і памёр.* Багданава. КУЛІ́К. Імгненна перакуліцца, паваліцца. *І свіне́й бі́лі даўбе́шкай. Зачапі́лі, дзёрнулі, ён* [кабан] *– кулі́к, і завалі́лі*. Жохава.

**КУЛЬНУ́ЦЬ** *зак*. Кульнуць, перавярнуць. *Ві́лкамі кульну́ла во́жыка*. Міцюкова.

**КУЛЬТУ́РА** *ж*. Расліна, якая разводзіцца, вырошчваецца. *За́сікі ў кле́ці. На ко́жную культу́ру сваё*. Фасаўшчына.

**КУ́ЛЯ** *ж*. Куля. *Ку́ля па́лец рассе́кла, раздрабі́ла косць*. Леснікова. ◊ КАЧА́ЦЬ КУ́ЛЮ. Качаць шар. [Гульня, у якой удзельнічаюць дзве групы мужчын, што гоняць мячык, зроблены з дрэва ў бок працiўніка. Гоняць на доўгую адлегласць. Кулю качалі старыя мужчыны на свята]. *Ку́лю къча́лі старыкі́ на пра́знікі. С па́лкамі, дручка́мі го́нюць аш у другу́ю дзярэ́ўню. Ку́ля была́, як мяч. Пато́м ігры́шча, му́зыка*. Дольдзева. *Кулі́ кача́лі, шары́ такі́я на дало́ню. Нас гру́па, чалаве́к дзе́сяць-пітна́ццаць, і друга́я гру́па сто́лькі. Адна́ гру́па – мы за лі́шка, а друга́я – мы за цы́та. Вы́круціць пято́й я́мку ме́траў на дзе́сяць, і ко́жная гру́па кача́іць свой шар. Як адзі́н пападзе́ць, то лі́шка, а ек два – то цы́та*. Вялікі Азярэцк.

**КУЛЯВЫ́**, **КУЛЮВЫ́**, **КУЛІВЫ́**, **КУЛЕВЫ́** *прым*. Кулявы (пра салому). *Кры́шу кры́лі сало́май кулявóй, аржано́й*. Міцюкова. *Плялі́ с сало́мы кулявэ́й лу́пкі*. Нямойта. *Лу́пкі плялі́ з лазы́ і кулявэ́я сало́мы* [круглыя]. Запруддзе. *Сало́ма кулюва́я ду́жа то́ўста, нямо́жна крыць ха́ту*. Дольдзева. *Куліва́я сало́ма была́*. Багданава. *Кулева́я сало́ма кры́шы крыць*. Дольдзева.

**КУЛЯ́ЦЦА** *незак*. 1. Перакульвацца праз галаву. *Як то́лькі пе́рвы гром пачу́юць, то куля́ліся дзе́ці, сем рас на́да было́*. Карпавічы. *Як пабегу́ць каро́вы, ня мо́жна ўпра́віцца, бяжы́ш за і́мі: і куля́іся, і валя́іся*. Партызаны. *Дзе́ці куля́лісі абы́-калі́. Куля́ліся, як гром ціръс гълаву́, я съма́ куля́лъся*. Гарадзец. *Занаве́ску к бо́ку – яны́* [смалянкі, пацукі] *куля́юцца на шнюрку́*. Нямойта, Розмыслава. 2. Хадзіць, перавальваючыся з нагі на нагу. *Куля́іцца тро́ху, хо́дзіць. Апо́хлі но́гі і жаво́т, но́гі, як кало́ды, іду́ – куля́юся*. Запруддзе. *Куля́іцца, як ву́тка, ідзе́ць, нага́ за нагу́ піраќу́льваецца*. Вялікі Азярэцк. *Куля́ецца, як ву́тка, – віх-віх*. Міцюкова.

**КУЛЯ́ЦЬ** *незак*. Пераварочваць, перакульваць. *Куля́юць ку́рыцу ат ку́ту да паро́гу: ме́руць, на што пяе́ць, пападае́ць гълава́ на паро́г – атсяка́юць гълаву́, а калі́ хвост – то хвост*. Латыгаль. *Куля́юць ку́ру ат ку́ту, пападзе́цца хвост – хвост атсіка́юць, гълава́ – гълаву́ атсіка́юць*. Партызаны. *Цяпе́р казо́й ме́руць, куля́юць яе́ і ме́руць*. Фасаўшчына.

**КУМА́** *ж*. Кума; хросная маці. *Пайшла́ ў Прыве́так да кумы́, се́ялі бу́льбу*. Партызаны. *Кума́ мая́ ляжа́ла ў бальні́цы*. Нямойта.

□ *Гало́днай куме́ хлеб на ў́ме*. Вялікі Азярэцк.

**КУМКУВА́СЦЕНЬКІ**, **КУМКУВА́СЦІНЬКІ** *прым. памянш.* 1. Суквецісты. *Кра́скі іва́на гулува́ нъ лугу́, у іх кумкува́сцінькъя гулува́*. Гарадок. 2. З сукаленцамі. *Кумкува́сценькая лъза́*. Каралевічы.

**КУМПА́НІЯ**, **КУНПА́НІЯ** *ж*. Кампанія. *Кумпа́нія піць ёсць*. Каралевічы. *Дзе кумпа́нія, ён ня ідзе́ць*. Дольдзева. *Като́ры ў кунпа́ніі харо́шы, яму́ ш усё ідзёць, яму́ пра́ма цаны́ німа́*. Вялікі Азярэцк. *Сніць бу́льбу къпа́ць – кунпа́нія бу́дзіць*. Ракаў Засценак.

**КУМПЯ́К**, **КУМПЮ́К**, **КУНПЯ́К** *м*. Кумпяк. *За́дні – кумпя́к, а пярэ́дняя – лъпа́тка*. Фасаўшчына. *У каго́ о́каракі, а ў нас кумпякі́*. Дольдзева. *Хто ло́жыць на дно дзе́шкі адны́*

*кумпякі́, засы́паныя со́ллю*. Міцюкова. *Со́ллю сы́пюць і падве́шваюць кумпякі́. Кунпякі́ салі́лі, падве́шывалі, на двор праве́трываюць*. Вялікі Азярэцк. *Біс касцэ́й мя́са варылі, ат кумпюка́ адрэ́жуць мяко́ць для цэ́рквы* [на Вялікдзень]. Карпавічы. *Ат кумпюка́ кро́шачэк нарэ́жэць і кі́далі ў по́ліўку*. Партызаны. *Кунпя́к, што палу́ччы мя́са*. Запруддзе. *І кунпякі́, і кілба́сы – усе́ забра́лі, астала́ся гла́дка з дзяцьмі́*. Цясішча. КУМПЯЧО́К *памянш*. *Кумпячо́к аднаму́, другому́ – усе́ пааддаю́*. Запруддзе.

**КУМЧА́СТЫ** *прым*. Бугрысты. *Смаршкі́ кумча́стыя, карава́тыя, а страчкі́ ні яду́ць*. Нямойта.

**КУНІ́ЦА**, **АКУНІ́ЦА** *ж*. Куніца. *Куні́ца то́жа ма́ленькая, тако́га цве́та, як вавёрка, шэ́рая*. *Акуні́ца ў ле́сі во́дзіцца*. Багданава.

**КУНЯ́ЦЬ** *незак*. Бубнець, буркатаць. *Уро́чліві, врэ́дны ён, бу́дзе куня́ць і зно́ўдаць*. Манголія.

**КУ́ПА** *ж*. Купіна. *Па ку́пах чо́нбар рос*. Багданава.

**КУ́ПАЛ**, **КУ́МПАЛ**, **КУ́МПАН** *м*. Купал. *Ку́мпан* [з царквы] *лез зніма́ць чалаве́к з Галавачо́ў. Усё с ку́мпаламі цэ́ркві. На пяць этажо́ў ку́мпал. Сра́зу шыры, круго́м све́чкі гъра́ць, пато́м ву́жай, круго́м све́чкі гъра́ць, пато́м яшчэ́ ву́жай, там све́чкі. А пато́м наве́рсі бъльша́я свіча́ гарыць і зълаты́ ку́пал. Ну ці ён зълаты́ ці пъзъла́чываны, я ні зна́ю*. Нямойта.

**КУПА́ЛА**, **КУПА́ЛЛЕ** *н*. 1. Купалле. *На Купа́лу руса́лку вадзі́лі, палі́лі агні́ ўся́кія, і мазу́ты, і калёсы. Як Купа́ла, ба́ба та́я лягу́шкай прыкі́нецца, учэ́піцца за нагу́, насмо́кчыцца мълака́, як ша́пкай здзе́лаецца, кру́глая, як ша́пка, і каро́ва здзе́лаецца няго́днай. На Купа́ла малако́ адбіра́юць у каро́ў*. Партызаны. *Па́люць на Купа́лу кълясо́, мазёнкі, нъ жардзі́ну тро́хі падымуць. На Купа́ла ръса́дзінку вырві, ко́рънь атламі́ і біс ко́раня пъсадзі, і калі́ іна́ бу́дзіць расці́, то за́муш выйдзіш* (павер'е). Гарадзец. *Іду́ць, пяю́ць, вянкі́ ўюць на Купа́лу, запа́ляць кълясо́ ў жы́та, по́йдуць, пяю́ць*. Алексінічы. *На Купа́ла пе́сні пе́лі, а перад Купа́ла варажы́лі*. Парэчча. *На Купа́ла запёрлі ў ха́ці, драп – запёрта. Я ў вакно́ вы́лезла, ту́тацька аткры́ла, а з нутры́ запёрта*. Чуцькі. *А Купа́ла бу́дзіць сядзьмо́га юля*. Багданава. *На Купа́ла на́да пъдвваро́тніцу атърва́ць, мазёнку ўкрыць, бяро́сты туды́ нъкладу́ць, кап гарэ́ла до́ўга*. Запруддзе. *На Купа́ла бо́чкі смаляны́я палі́лі*. Леснікова. *На Купа́лле жы́та абніма́лі, ко́лькі ў жме́ню набярэ́ш, счыта́еш: у па́ру ці не ў па́ру. Частако́л абніма́еш*. Міцюкова, Ракаў Засценак. ◊ ІВА́Н КУПА́ЛА. Купалле. *На Іва́на Купа́лу ўсё тако́е дзе́лаюць, ка́жуць: купа́ла набідаку́рыла*. Міцюкова.

□ *У нас сяго́ння* (*за́ўтра*) *Купа́ла, хто што здзе́лаў, –* <*усё*> *прапа́ла*. Багданава, Алексінічы, Вялікі Азярэцк, Мянюцева, Партызаны, Рэчкі, Самсоны, Чуцькі.

**КУПА́ЛА** *ж*. Купальнік (расліна). *Тъка́я търва́ купа́ла, рвём яе́, кве́тка такі́мі бубе́нчыкамі, на ім пяць ліпястко́ў, іна́ тъка́я късма́цінькъя, такі́я кру́чаныя лісто́чкі то́ркалі ў ха́ту, пат столь і варо́жуць: калі́ бу́ду жыць, то распу́сціцца, а памру́ – то ні распу́сціцца. Купа́ла расло́, і яго́ рва́лі лячыць каро́ў, які́я мачы́лісі кро́ўю*. Ракаў Засценак.

**КУПА́ЛІНЫ** *прым*. Купальскі. *Купа́ліна ноч прашла́*. Ульянавічы.

**КУПА́ЛІЦЬ** *незак*. Адзначаць Купалле. *Цэ́лу ноч бу́дзе маладзёш купа́ліць*. Розмыслава. *Купа́ліла ноч, цяпе́р спаць хо́чаш*. Ульянавічы. *На Купа́лля мы хо́дзім купа́лім*. Станюкі, Баравікі.

**КУПА́ЛКА** *ж*. Купальнік (расліна). *Ці вы купа́лкі век не віда́лі, ці вы купа́ла век ні гъня́лі*. Запруддзе.

**КУПА́ЛЬНЫ**, **КУПА́ЛНЫ** *прым*. Купальскі. *Купа́льную траву́ сабіра́лі, свяці́лі*. Мянюцева. *Ба́бы пяю́ць купа́лныя пе́сні*. Неўгадава. ◊ КУПА́ЛЬНЫ ІВА́Н. Купалле. *На Купа́льнага Іва́на каму́ згаро́дзіну раскі́неш, каму́ дзве́ры падапрэ́ш, каб ня выляз, пато́м вянкі́ в'юць і кіда́юць на ваду́ – куды́ за́муш по́йдзеш, а лягу́шка ўско́чыць і пато́піць*. Міцюкова. *На Купа́лнага Іва́на хадзі́лі пе́лі. Ко́мін закрыва́лі, бо́чкі смаляны́я палі́лі*. Леснікова.

**КУПА́ЦЦА** *незак*. 1. Купацца (у вадзе). *Ілля́ ўці́снула ў во́зіра лідня́, тады́ ўжо ні купа́юцца*. Запруддзе. *Ілля́ (Ля) укі́нець лідня́ – ніхто́ ні далжо́н купа́цца. Му́сіць два́ццъць*

*шо́стъга ма́я піраплаўніца – пачына́юць купа́цца*. Малы Азярэцк. *Як про́йдзіць свя́та піраплаўніца – мо́жна купа́цца, гэ́та, къза́лі, Бох піраплывее́ць*. Дольдзева. *Да Ллі мо́жна купа́цца*. Ракаў Засценак. *У жысь ні купа́юсь у во́зіры заку́рскім* [бо тапілася і баюся]. Закур'е. 2. Грэбціся ў пяску (пра курэй). *Купа́юцца ў пяску́ ку́ры, дождж бу́дзіць* (прыкмета). Гарадзец. *Калі́ ку́ры ў пяску́ купа́юцца – цёпла, паго́да* (прыкмета). Дольдзева. *Яны́* [куры] *лю́бяць у пяску́ купа́цца*. Фасаўшчына. 3. *перан*. Часта плакаць. *Што дзе́ці – ра́дуюся, а так у слізах купа́юся.* Баравікі.

**КУПА́ЦЬ** *незак*. Купаць, мыць. *А купа́ла іна́ іх* [дзяцей] *два разы́ па дні, ра́на й ве́чар, каб спа́лі*. Заазер'е.

**КУ́ПАЦЬКА** *ж*. Невялікая колькасць, крыху, трошкі. *Не́йка ку́пацька са́хару была́*. Запруддзе.

**КУ́П'Е**, **КУ́П'Я** *н. зб*. Купіны. *Ку́п'я на бало́це по́ўна. Ку́п'я там, чо́нбар паху́чы*. Багданава. *Ку́п'я, кусты́, ву́ткі вылята́юць*. Ульянавічы. *На ку́п'і, у ку́п'і рваў*. Гарадзец. *Ку́піны, ку́п'е – асака́ расла́ там*. Заазер'е. *Ку́п'я стаі́ць у бало́ці*. Гарадок.

**КУ́ПЕНКА** *ж*. Купіна. *У со́сніку, які́ мо́хом зва́лся, ку́пенкі такі́я былі́, журaві́ны раслі́*. Багданава.

**КУПЕ́Ц** *м*. Купец. *Купцо́ў німа́ на ха́ту, цяпе́р казённыя*. Вялікі Азярэцк. *Купе́ц – ён пръдае́ць*. Нямойта.

**КУ́ПІНА** *ж*. 1. Купіна. *Ку́піны па бало́це, па іх журaві́ны*. Багданава. *Пасяро́д вады́ ку́піна высо́кая*. Ульянавічы. *На ку́пінах чабо́р*. Нямойта. 2. Няроўнасць, бугор. *Ку́піны пілачкай зрэ́жам*. Баравікі.

**КУ́ПІЦЦА** *зак*. Будзе купленым. *Ко́лькі іх яе́ц тых на́да – дзіся́так ку́піцца*. Нямойта.

**КУПІ́ЦЬ** *зак*. Купіць. *Тры нні наза́т купі́ла чатыіры парасёнкі, ды яны́ до́рагі*. Турава. *Пърасёнъчка купі́ла, ву́тъчак, піскліня́тък*. Кішуроўшчына. *Купі́ў ръсса́ды і нъсадзі́ў капу́сты*. Жохава. *Ма́ліц купі́ў у О́ршы за тры́ццъць пяць рублéй аўча́рку*. Міцюкова.

**КУ́ПКА** *ж*. Група людзей. *Пірасы́паліся лю́дзі на гру́пкі, так і сідзя́ць ку́пкамі*. Серкуці.

**КУПКУВА́СЦІНЬКІ** *прым. памянш*. Які мае акруглую форму. *Ма́льчыкавъя трава́ ат нашні́ц, сі́нінькая, нападо́бії васількóў, цвет бо́льшы, така́я купя́нінькая, цвяты́ цвіту́ць, як юргі́ні, купкува́сцінькія*. Багданава.

**КУПЛЁНЫ**, **КУ́ПЛІНЫ** *дзеепрым*. 1. Куплёны. *Куплёны въратні́к прышыва́юць*. Буй. *Любу́ю вы́разку ці этажэ́рачку для кні́жък здзе́лае, лу́чша куплёнай*. Багданава. *Ку́пліная ге́та зімля́*. Серкуці. *Дзівяці́ хъзя́йнуў ку́пліный лес Саро́ка*. Міцюкова. 2. *н*. Крамнае, не сваё. *Ра́ньшы ні куплёное ўсё было́, самадзе́льно*. Гарадзец. *Куплёнага не зна́лі – усё сваё было́*. Закур'е.

**КУПЛЯ́ЦЬ** *незак*. Купляць. *Дык на́шы зямлю́ купля́лі ў па́на*. Рэчкі. *Я ўсё с пе́нсіі сабе́ купля́ю*. Багданава.

**КУПО́Н** *м*. Устаўка з тканіны са спецыяльнай аддзелкай. *Купо́н называ́лі* [для кофты], *вы́шытыя на грудзя́х, у рукава́х*. Фасаўшчына.

**КУПЯ́НЫ** *прым*. Які расце купкай, мае форму купіны. *Бу́льба была́ купя́ная, красі́вая, а счарне́ла – маро́з даў*. Партызаны. КУПЯ́НІНЬКІ *памянш*. *Іна́* [кветка] *тъка́я купя́нінькая, як юргі́н*. Багданава.

**КУ́РА** *ж*., **КУ́РЫ** *мн*. Курыца, куры. *Ку́ра пяе́ць – на якую бяду́*. Латыгаль. *Было́ хо́ладна, пане́сла куро́м*. Вялікі Азярэцк. *Калі́ нагу́ паднялі ку́ры – хало́дна* (прыкмета). Дольдзева. *Ку́ры ва сне – забо́та, яі́чкі бі́тые – убы́ткі, харо́шые – пры́быль*. Каралевічы. *Сня́цца ку́ры – кло́пъты бу́дуць, я́йцы цэ́лыя – хърашо́, а бі́тыя я́йцы, то ўшчэрп*. Ракаў Засценак. *Не́мец пале́с зъ курмі́ пат печ*. Закур'е. КУ́РАЧКА *памянш*. *Ку́ръчък заву́ць пыль-пыль-пыль*. Запруддзе. *Пяць ку́рачак, а то ўсё петухі́*. Партызаны. *Ку́рачкі ў нас ёсь, мясі́стыя, то́ўсценькія*. Старая Беліца. ◊ КУРА́М НА СМЕХ. Зрабіць што-н. недарэчна, дрэнна. *Што ні зро́біць – кура́м на смех*. Запруддзе. ◊ КУ́РЫ КАЛО́ДЗЕШ АБЯРНУ́ЛІ.

Пра адсутнасць вады ў калодзежы. *Ку́ры кало́дзеш абярну́лі – ня́ма́ вады́ ў кало́дзежы*. Вялікі Азярэцк.

**КУРА́ЖЫЦЦА** *незак*. Жаліцца. *Кура́жыўся дні тры, што не́шта яму́ балі́ць*. Партызаны.

**КУРА́К**, **КУРА́Ч** *м*., **КУРАКІ́** *мн*. Пятля ў лапцях, куды зацягваліся аборы. *Глухі́ кура́к есь у ла́пцёх, я яго́ ні закладу́*. Кляпчэва. *У ла́пцях адзіна́ццъць курако́ў*. Нямойта. *У ла́пцях з лазы́ такі́я пляту́ць куракі́*. Заазер'е. *Яно́ ўця́гвалася ў куракі́, круго́м, хрэст-на́хрэст і пашо́л*. Багданава, Алексінічы. *Куракі́, каб дзяржа́ліся ла́пці*. Дуброўкі. *У ла́пці ку́рач, за ку́рач цъпля́ююцца*. Багданава.

**КУРАПА́ТА**, **КАРПА́ТА** *ж*. Курапатка. *Курапа́ты, цецерукі́, ву́ткі вадзі́ліся, лес быў бальшо́й, усё раскарчава́лі*. *Курапа́таў шэ́рых ма́ла ста́ла*. Дуброўкі. *Дъ вайны́ ў За́пъднюй былі́ кълъра́дзкія жукі́, а кърпа́ты іх зьністо́жылі*. Сянно.

**КУРА́ПАЎКА** *ж*. Вялікая жаба. *У кура́паўкі во́чы бальшы́я, яны́ нъ людзе́й бръса́лісі*. Нямойта. *Кура́паўка за мной галёпам-галёпам, а я яе́ сярпо́м пърну́ла*. Вялікі Азярэцк.

**КУРАСЛЕ́П** *м*. Кураслеп. *Курасле́п бе́лым цвіці́ць*. Гарадзец. *Курасле́п бе́лы, зялёнае лі́сце ла́пачкамі, на́да знаць, што с нім дзе́лаць*. Каралі.

**КУРАСПЕ́ЛКА**, **КУРУСПЕ́ЛКА**, **КУРАСПЕ́ЙКА** *ж*. 1. Ранні сорт бульбы, скараспелка. *У нас ёсь «кураспе́лка», «сне́шка», «старт» – бу́льба*. Баравікі, Жохава. *Плаха́я бу́льба куруспе́лка, зва́рыш – ні разва́рваецца*. Запруддзе. *Кураспе́йка была́, а бе́лая прапа́ла*. Неўгадава. 2. Ранні сорт любой агародніны. *Кураспе́лка не́йкая плаха́я. Ра́нняя капу́ста, кураспе́лка, расце́ць і раска́пліваецца, здзе́лаецца як дру́злая, во́сеньская – харо́шая. Кураспе́лкі паса́дзіш* [раннія гуркі]. Запруддзе. *Больш ча́сці кураспе́лка была́ ў мяне́, лу́ччы ро́дзіць*. Ракаў Засценак. *Кураспе́лка вышы пъдніла́ся* [а астатняя яшчэ малая ростам]. Вялікі Азярэцк.

**КУРА́ТНІК** *м*. 1. Куратнік. *Кура́тнік – дзе ку́ры сідзя́ць*. Нямойта. *Кура́тнік у людзе́й лу́ччы, чым я жыву́*. Буй. КУРА́ТНІЧАК *памянш*. *Кура́тнічак на́да сдзе́лаць. Шо́сцікі ў кура́тнічку называ́юцца*. Дольдзева, Заазер'е. 2. *перан*. Невялікая хатка. *Ба́ню перацягну́ў, ма́тку ў кура́тнік пасадзі́ў*. Розмыслава.

**КУРА́ТНЯ** *ж*. Куратнік. *Ку́ры пайшлі́ на куро́сання ў кура́тню*. Івоні.

**КУРА́ЧЧА** *н. зб*. Петлі ў лапцях, куды зацягваліся аборы. *Кура́чча ў лапця́х, або́ры ўця́гваюць*. Алексінічы. *Кура́чча – або́ры ў лапця́х*. Савінічы.

**КУРА́ШКА** *ж*. Кавалак дрэва для акурвання пчол дымам. *Кура́шкі, гнілле́ тако́я сухо́я. Ён з вірбало́сіны дроў кура́шкі, іна́ агнём ні гары́ць, а куры́цца*. Кішуроўшчына. *Кура́шкі – лі́па ідзе́ гніла́я, дупло́ ідзе́. Лі́пу лю́бляць*. Вялікі Азярэцк.

**КУРГА́Н** *м*. 1. Узгорак, узвышша. *На канцы́ ні́вы курга́н*. Фасаўшчына. *Курга́н у пра́вай стъране́*. Каралі. КУРГАНО́К *памянш*. *На кургано́к кні́гаўка кла́ла я́йца*. Дуброўкі. 2. Месца пахавання ў форме старажытны магільнага насыпу. *Тут тры ці два курганы, тых францу́заў тут пъхъранí́лі, зве́злі і пъхъранí́лі*. Чуцькі. *Ёсь два вісо́кія, кру́глыя, францу́зскія курга́ны лі Нямо́йты*. Нямойта. *Курга́наў было́ мно́га францу́зскіх у дзярэ́ўні Спі́цы*. Вялікі Азярэцк, Алексінічы. 3. Кучка, горка. *Апе́нькі па днэй ні расту́ць, кургунамі́*. Гарадок. КАРГАНО́К *памянш*. *Ён се́е, як пасо́джано, а ў міне́ кългънка́мі*. Багданава.

**КУРДЗЮ́К** *м*. Выступ у ніжнім бервяне, у замку вугла [нямецкага]. *Курдзю́к высіка́іцца ў чы́стым вугле́*. Баравікі.

**КУР'Ё** *н. зб*. Кураняты. *Кур'ё мало́я гэ́та глядзі́, каб ні выпаўзлі на даро́гу*. Запруддзе.

**КУ́РКА** *ж*. Невялікая курыца. *Ты на адну́ ду́шу со́рак ку́рак дзержы́ш*. Каралевічы. *Хоць ку́рку яку́ю сваю́ ма́еш*. Цясішча. *Заганя́й ку́рак у хлеў. Ат сваі́х ку́рак яі́ц лю́біць*. Багданава. *Чо́рненькіе купі́ла ку́ркі, як галаве́шкі*. Чуцькі.

**КУ́РКІ** *мн*. Гаварушкі (грыбы). *Ку́ркі дро́бныя, жо́ўцінькія пъд нізо́м, расту́ць пу памёту, за мшком*. Партызаны, Сяргейкі. *Ку́ркі нъ гнілы́м дрэ́ві расту́ць, мы іх ня бе́рым. Яны́ дро́бнінькія, жо́ўцінькія, забо́ръчкі къла ве́ршыка зве́рху*. Закур'е.

**КУРКУ́ЛЬ** *м.* Заможны, багаты чалавек. *Куркулі́ зажы́тачныя, дом у іх, сад, гро́шы.* Жохава.

**КУР-КУР-КУР** *выкл.* Гукі, якія перадаюць кваканне жаб. *Там лу́жына, ра́ншы скуты́ насі́ла бялі́ць, а там лягу́шкі кур-кур-кур* [я іх баялася]. Запруддзе.

**КУРКУРУ́ЗА** *ж.* Кукуруза. *Каро́вы харашо́ яду́ць куркуру́зу.* Запруддзе. *Во іка́я куркуру́за*! Марозаўка. *Куркуру́зу садзі́лі.* Сукрэмна.

**КУРМЕ́ЛЬ** *м.* Пячкур. *Курмялі́ бальшы́я ні расту́ць, яны́ то́лькі пъ пяску́ па ме́лкім.* Нямойта. *Курме́ль кру́глінькі, уку́сны, мя́ккі.* Багданава. *Жы́рны, як курме́ль.* Фасаўшчына. КУРМЯЛЁК *памянш. Але́ налаві́ў курмялько́ў.* Нямойта. *Курмялёк мя́кінькі, сыцінькі, па чэ́цьвірці* [даўжыні]. Багданава.

**КУРНА́ЦЬ** *незак.* Акунаць. *Дзіця́ бяру́ць, ву́шкі і за но́сік заціска́юць і ў ваду́ курна́юць* [стараверы]. Закур’е. КУРНУ́К. Хутка акунуць. *Дзіця́ ў ваду́ курну́к* [так хрысцяць дзіця стараверы]. Закур’е.

**КУ́РНІЦА** *ж.* Вяндлярня. *Гэ́та была́ ку́рніца* [дзе капцілі кумпякі]. Баравікі.

**КУРНО́СЫ** *прым.* Кірпаты. *Курно́сы ма́лец.* Багданава. КУРНО́СЯНЬКІ *памянш. На шу́тку з даўгі́м но́сам заву́ць курно́сянькім.* Нямойта.

**КУ́РНЫ** *прым.* Курны (пра хату). *Ку́рная ха́та была́, зато́піць, ко́міна ні было́, дзве́ры атчы́неты, усё чо́рнае: і столь, і печ, і сце́ны. І́скры ляця́ць.* Багданава. *Ку́рныя ха́ты, ды́мныя, ко́міна ні было́.* Марозаўка. *Ха́ты даўне́й з ды́мам – ку́рныя.* Фасаўшчына. *У гънчара́ пе́чка здаро́вая, ха́та ку́рная.* Леснікова, Дольдзева.

**КУРНЯ́ЎКАЦЬ** *незак.* Мяўкаць. *Кот курня́ўкаіць – каў-каў.* Фасаўшчына.

**КУРО́САДНЯ**, **КУРУСА́ДНЯ**, **КРУСО́ДНЯ, КРУСА́ДНЯ КУРУСО́ННЯ**, **КУРО́САННЕ**, **КУРСО́ДНЯ**, **КУРСА́ДНЯ**, **КУРСУ́ДНЯ** *ж.* Курасадня, седала. *У хле́ві куро́садня, я ўсе павы́мела, павы́несла ў гаро́д.* Леснікова. *Квакту́ха на куруса́дні сядзі́ць.* Запруддзе. *Крусо́дня — жэ́рдзіна тъка́я, дзе ку́ры сідзя́ць. І круса́дня.* Каралевічы. *А там падзе́ланы жэ́рдачкі, пъляце́лі на курсо́дню ку́ры.* Вялікі Азярэцк. *Як со́дзюш ціпля́т — то курсо́дня. Курусо́ння — дзе ку́ры садзя́цца.* Розмыслава. *Ста́нуць малаці́ць, яны́ зажырэ́ўшыя, на куро́санне не ўзляці́ць* [курыца], *уні́зе ся́дзе.* Нямойта. *Зара́ння на курсо́дня садзі́цца ку́рыца. З начы́, дзе ку́ры, у курса́дні бе́ла, начына́юць ліна́ць.* Самсоны. *Як со́дзіш ку́ру на яі́чкі у́трам, ціпля́ты зара́нне на курсу́дню бу́дуць садзі́цца.* Багданава.

**КУРО́ЧЫЦЬ** *незак.* 1. Правяраць. *Куро́чуць яе́* [бальніцу] *нупува́л, знялі́ глаўувърэча́.* Сянно. 2. Пераварочваць, калашмаціць. *Прыйшо́ў паліца́й і стаў куро́чыць, усё браў, што ні пападзе́ць у ру́кі.* Нямойта.

**КУ́РТА** *ж.* Кофта. *Ку́рту надзе́ніць і без руба́хі.* Багданава. *Ку́рта адна́ і спадні́к адзі́н быў.* Запруддзе. *Ку́рта свято́шная ў мяне́ была́, сваé рабо́ты.* Буй. *Здзень ку́рту.* Міцюкова.

**КУРТА́ТЫ** *прым.* Бясхвосты. *Курта́тъя съба́ка.* Фасаўшчына.

**КУ́РТКА** *ж.* Кофта. *Ку́рткі, спадні́цы – усё дзе́лалі са́мі.* Серкуці. *Не́ктрыя гъвары́лі ко́хта, не́ктрыя – ку́ртка.* Леснікова. *Яны́ пъпарэ́залі ма́ткіну ку́ртку, а ку́клу ні далі́.* Нямойта.

**КУРАПА́ТКА**, **КУРУПА́ТКА**, **КУРПА́ТКА** *ж.* Курапатка. *Курапа́ткі я́йцы е́лі. Курпа́тка жуко́ў* [каларадскіх] *есь.* Ульянавічы. *Курапа́ткі ёсь і цяпе́р. Курупа́тку ма́ла сустрэ́ніш.* Багданава. *На ахо́ту хо́дзюць за курапа́ткамі.* Розмыслава, Дуброўкі. *Курупа́ткі пайіда́юць жуко́ў.* Апечкі. *Курупа́ткі ло́вюць, яны́ пале́зные, ёсь цяпе́р, але́ рэ́дка.* Цясішча. *Нъ курпа́тък ахо́цілісі паны́ кру́глый гот* [у Белавежскай пушчы]. Сянно.

**КУРУЯ́** *ж.* Курыца з прыкметамі пеўня; гермафрадыт. *Ні пяту́х, ні ку́рыца ў мяне́ адзі́н раз была́ – куруя́.* Партызаны.

**КУРЧА́ВЫ** *прым.* Кучаравы. *Таке́я курча́выя въласы́ ў яе́, аж лю́ба гля́нуць.* Партызаны.

**КУРЧО́НАК** *м.* Кураня. *Ні курчо́нка – нічаво́ ні было́, згарэ́ла.* Цясішча. *Прые́хъла – ні курчо́нка, ні пъpасёнка*! [была зіму ў дачкі]. Кішуроўшчына, Баравікі. КУРЧО́НАЧАК *памянш. Іна́ ні курчо́начка ні дзяржы́ць, ні пърасёнъчъка.* Багданава.

**КУ́РЫВА**, **КУ́РАВА** *н.* Курыва. *А чаго́ мне ку́ръва ні пълажы́лі*? [сказаў у сне нябожчык]. *Кап яко́га ку́рыва пълажы́ць у магі́лу, кап не здъва́лься, што хо́дзіць*. Ракаў Засценак.

**КУРЫ́ННЫ** *прым.* Курыны. *Куры́ннъя мя́са прыкла́дъюць ат змей* [у Сібіры]. Леснікова. *Гняздо́ куры́ннае*. Багданава.

**КУ́РЫЦА**, **КУРЫ́ЦА** *ж.*, **КУ́РЫ** *мн.* Курыца, куры. *Калі́ пяе́ць ку́рыца, то ста́рые лю́дзі ме́руць ат ку́ту да паро́гу на што яна́ пяе́ць. Калі́ пападзе́ць галаво́й, то атсяка́юць галаву́, калі́ хвасто́м, то атсяка́юць хвост і пуска́юць* (прыкмета). Латыгаль. *На Па́ску, калі́ ку́рыца знясе́ яйцо́ – няпе́ўнае*. Каралевічы. *Е́слі ку́рыца запяе́ць, то на бяду́, мо́жа і пажа́р быць*. Сукрэмна. *Трэ́ба курэ́й вы́пусціць пъпа́свіць*. Багданава. *Як ку́рыца пяе́ць, то скаці́на здо́хнець, то сам забале́еш*. Ракаў Засценак, Алексінічы, Буй, Кляпчэва, Нямойта, Фасаўшчына. *У мяне́ адна́ куры́ца, падо́хлі не́шта*. Ульянавічы, Нямойта. *У печ куры́цу ста́рую і мя́са паста́ўлю, то ўсё мя́са аб'е́дзіць ат касці́*. Неўгадава. *Панясла́ куро́м, а ю́шку ні атчыні́ла, і ды́му по́ўна ха́та*. Вялікі Азярэцк. *Тхор есь курэ́й*. Багданава.

□ *Ку́рыца на сваю́ гълаву́, на прычы́ну пяе́ць*. Запруддзе. □ *На прычы́ну й ку́рыца пе́рніць*. Каралевічы. □ *Цяплёнак ку́рыцу ву́чыць*. Багданава.

**КУРЫ́ЦЦА** *незак.* 1. Курыцца, тлець. *Кура́шка агнём ні гары́ць, а ку́рыцца*. Кішуроўшчына. 2. Удыхаць дым, абкурвацца. *І сядзя́ць у дыму́ і ку́рацца, і здаро́выя ба́бы былі́, крэ́пкія*. Багданава.

**КУРЫ́ЦЬ** *незак.* 1. Курыць. *У нас і сын ня ку́рыць*. Заазер'е. *Ку́руць цяпе́р дзе́ўкі – хале́ры*. Запруддзе. *Крапівы́ насу́шыш, у лісто́ўку закру́ціш і куры́лі ў парціза́нах*. Багданава. *Маладыя ра́ньшы ду́жа і не куры́лі*. Закур'е. 2. Абкурваць дымам. *Ку́рылі дзіця́ траво́й свянцо́най, што свяці́лі на Тро́йцу. На Буі́шчы ёсць ба́бка з іспу́гу куры́ць і вады́ дае́ць*. Апечкі. *У ха́це ку́руць свянцо́най траво́й*. Багданава. *Сваі́мі я́блынямі, як падгнію́ць, баю́ся куры́ць*. Вялікі Азярэцк. 3. Падпальваць, апальваць. *Ку́рылі шэрсць на паро́гі, як спуга́іцца* [дзіцё сабакі] *хто, кап паню́хаць*. Леснікі. *Ро́бюць то́е, што съба́ку хто апстрыжэ́ць, а тады́ ку́руць шэрсць яго́* [ад пуду]. Запруддзе.

**КУРЭ́МШАЦЬ** *незак.* Замешваць без рошчыны, без дражджэй (?). *І бяз хле́ба, і бяз дражжэ́й – курэ́мшаш*. Міцюкова.

**КУРЭ́НДА** *ж.* Размова. *І павёў сваі́ курэ́нды паліца́й: твой мужы́к мяне́ ра́ніў*. Нямойта.

**КУСА́Н** *м.* Недаедзены кавалак хлеба. *Суджо́ны-ро́джаны, прыхадзі́ ка мне начува́ць, памажы́ куса́н даяда́ць* [пры варажбе]. Каралевічы.

**КУСА́НАК** *м.* Тое ж. *Куса́нък хле́ба, ясі́ ды ні дъясі́*. Савінічы. *До́бра варажы́ць, калі́ пе́рвы раз у ха́це і каб там е́ла, куса́нак вазьмі́ і каб там начува́ць*. Каралевічы. *Куса́нък хле́ба ні кіда́й, па́міць ціра́іш* (павер'е). Нямойта.

**КУСАНУ́ЦЬ** *зак.* Укусіць. *Яны́* [пчолы] *мо́гуць кусану́ць*. Нямойта.

**КУСА́ЦЦА** *незак.* Кусацца. *Пчо́лы куса́юцца на дош* (прыкмета). Запруддзе. *Сляпні́ да во́сені куса́юцца*. Гарадзец, Нямойта.

**КУСА́ЦЬ** *незак.* Кусаць. *Як яны́ бу́дуць хазя́іна куса́ць*? Нямойта. *Каро́ва гі́каецца, як куса́юць вадні́, сляпні́*. Гарадзец.

**КУСА́ЧЫК** *м.* Пярэдні зуб, разец. *Пярэ́днія зу́бы – куса́чыкі*. Нямойта.

**КУСЛІ́ВЫ** *прым.* Куслівы. *Вадні́ днём літа́юць і куса́юцца, а сляпні́ пад ве́чар такі́я куслі́выя*. Жохава. КУСЛІ́ВЕНЬКІ *памянш.* *Вадні́, сляпні́ кусьлі́венькіе*. Партызаны.

**КУСНУ́ЦЬ** *зак.* Укусіць. *Я два разы́ куснýла я́блыка*. Каралевічы.

**КУСО́К** *м.* Кусок, луста. *Атрэ́ш хле́ба кусо́к*. Заазер'е. *Хоць кусо́к хле́ба на́да даць*. Івоні. КУСО́ЧАК *памянш.* *Кусо́чак са́хару*. Фасаўшчына. *Бу́льбы кусо́чак, лёну кусо́чак, усё там се́юць*. Запруддзе.

**КУСТ** *м.* 1. Куст. *І кусты́ былі́ – лес*. Запруддзе. *Адзе́шка ляжы́ць у кусто́х*. Партызаны. *Ідзём ні́зам да па кусто́м*. Алексінічы. *Але́нец у ле́се такі́мі куста́мі, як смаро́дзіна, расце́ць. Куст кру́глый рос, а там* [у ім] *було́ ло́гува* [пра ваўкоў]. Багданава. *Ідзе́ць мужы́к с кусто́ў*. Міцюкова. *Пат ку́стам ку́чай сабяру́цца і п'юць*. Нямойта.

*Кустáмі зъръстáіць бéріх*. Гарадок. 2. Ягаднік. *У Калóдзісі* [урочышча] *кусты́ дурні́ц ёсць, а я́гът німá*. Сукрэмна. 3. Корч бульбы з націнай. *Вы́рвала куст бу́льбы, а там – нічóга*. Сукрэмна. 4. Кучка. *Апéнькі расту́ць кустáмі*. Вялікі Азярэцк. *Вару́шак куст нашлá*. Неўгадава.

**КУСТАНЫ́** *мн.* Кусты, зараснік. *Былі́ кустаны́, цяпéр пáшуць там, раскурчувáлі*. Латыгаль.

**КУСТА́РНІК** *м.* Тое ж. *Быў лес, а цяпéр кустáрнікі, я́сені мнóга былó*. Нямойта. *Усё там гóла стаіць, ні кустáрнікаў, нічавó німá*. Запруддзе.

**КУСУГО́Р** *м.* Касагор. *Кълa вóзіра кусугóр*. Багданава.

**КУСУ́ЧЫ** *прым.* Кусліва, кусачы. *Кусу́чы такі́ сьляпéнь*. Гарадзец.

**КУТ** *м.* 1. Покуць. *У хáту нясу́ць жмéні дзве дабрá і на ку́це стáвюць*. Запруддзе. *У хáту няслі́ пéрвы сноп, на кут стáвілі*. Гарадзец. *Вéшаў вянóк у ку́це брыгадзі́р*. Карпавічы. *Як мы́лі аттýль іс ку́та* [падлогу]. *Трэ́ба ў кут мыць палы́, каб ня вы́мыў людзéй* [пакойнік] (павер'е). Вялікі Азярэцк. *Настóлькі пяю́ць на парóзе бóлей, чым на ку́це*. Марозаўка. *Мáма мая́ ляжы́ць на ку́це – памёрла*. Галашчакіна. *Як сядзіцé на куцé – пачынáйце* [піць гарэлку]. Ульянавічы. *Прóста на куцé абразы́ вісéлі*. Алексінічы. *Я ні рáзу пад кутóм ні начавáла, харашó пражылá*. Самсоны, Багданава, Кляпчэва, Нямойта, Цясішча. *Дзяцёнка здарóвага брáлі і пускáлі: ідзі́, каб жысьць здарóвая былá* (павер'е). *У нóвую хáту ікóну ўнóсілі, клубóчак брасáлі на кут, каб жысьць ві́лася, як клубóк*. Дуброўкі. 2. Вуглавая частка пашы. *У сáмъй кут зъгнáў карóў*! Гарадок.

**КУТАСЫ́** *мн.* Кутасы. *Ху́стка з кутасáмі*. Гарадзец. *Кутасы́ папрышывáла да ху́сткі*. Каралі. *Сучы́ла кутасы́*. Вялікі Азярэцк. КУТА́СІКІ *памянш.* *Паясы́ плялі́ с шэ́рсці, кутáсікі дзéлалі*. Заазер'е.

**КУ́ТНІК** *м.* Кутнік, кутні зуб. *Ку́тнікі сáмі вы́палі*. Нямойта.

**КУТО́К** *м.* 1. Куток, вугал. *Зъвярну́ся я ў кутóк і тры чáрачкі ў ратóк* (з песні). Каралевічы. *Въражбі́тка скъзáла, што конь у дзярэ́ўні, у цёмным кутку́* [яго схавалі зладзеі]. Міцюкова. *Усé пу куткáх сідзя́ць* [пра спецыялістаў]. Багданава. 2. Уласная хата. *Мужы́к памёр, дык інá хадзі́ла, кап ёй далі́ кутóк*. Мянюцева. *Я са свайгó куткá нікудá*. Дуброўкі.

**КУТУВЫ́** *прым.* Кутні. *Кутувáя, на куцé кладзéцца манéта*. Багданава.

**КУ́ТЫ** *прым.* Куты; абабіты палосамі жалеза. *Каткі́ былі́ ку́тыя*. Серкуці.

**КУЎЗЯЛЁМ** *прысл.* Коўзаючыся па лёдзе (?). *За дзень лáпці саб'ю́ куўзялём*. Алексінічы.

**КУЎТУНУВА́ТЫ** *прым.* Хворы на каўтун. *Куўтунувáты быў, абстры́глі, то умá лішы́ўся* [нельга абстрыгаць каўтун]. Нямойта.

**КУФА́ЙКА**, **КУХА́ЙКА** *ж.* Фуфайка. *Шчу́ка вялі́кая ў куфáйцы ляжы́ць*. Багданава. *У куфáйцы грóшы нóсіць*. Нямойта. *Сáмі панадзéлі кухáйкі*. Серкуці.

**КУ́ФІЛЬ** *м.* Куфель. *Ку́філь – éта кру́шка с глі́ны*. Манголія.

**КУФЭ́РАК** *м.* Куфэрак. *Куфэ́рак нібальшэ́нькі для йгóлак, ні́так.* Багданава.

**КУ́ХАН** *м.* Здобнае печыва. *Вязу́ць канфéты, ку́ханы, бърáнкі с Сіннá ў Уллянáвічы*. Заазер'е. *Ку́хън звáўся, як пячэ́нне, інá мне далá адзі́н. Інá ўзялá два ку́хъны*. Нямойта. *Прáннік ку́калкъй, ку́хъны звáлі, салóткія, рассыпáюцца*. Фасаўшчына. *Сьпяклі́, кáжуць, ку́хан*. Буй.

**КУХА́РКА** *ж.* Кухарка. □ *Пакá хазя́йкі ў гу́пкі, дак у кухáркі ў ду́пкі*. Міцюкова.

**КУХА́РНІЧАЦЬ** *незак.* Гатаваць стравы. *Кухáрка кухáрнічала, яду́ вары́ла*. Запруддзе.

**КУ́ХЛІК** *м.* Гарлач. *Ку́хлік – éта такі́ гърлáчык, хто мълакó, хто на пóля ваду́ браў, як жацъ хадзі́ў*. Алексінічы.

**КУЦУ́ПАЛКА** *ж.* Кукса; астатак пакалечанай рукі. *Куцу́палка вісі́ць у ягó*. Гарадзец.

**КУЦЦЯ́** *ж.* 1. Крупяная каша. *Рáньшы ні кáша, а куцця́ звáлі. Куцця́ былá з бóбам*. Вялікі Азярэцк. *Куц'я́ ў іх, кáша, пóліўка, крупéня. Куцця́ – чы́ста выбірáюць пшані́цу, кіпіця́ць яé, ні да гатóўнасці, із мёдам развóдзюць*. Карпавічы. *Куццю́ вары́лі с крупы́*.

Дольдзева. 2. Назва абрадавай стравы, прыгатаванай з ячных круп. *Ба́ба вары́ла куццю́ з ячмянны́х круп, на къляду́ куццю́ вары́лі*. Дольдзева. 3. Абрадавая ежа на памінках. *Хто з бъра́нкі дзе́лъіць ці з мукі́ куццю́*. Малы Азярэцк. *Куцця́ нъ памі́нкъх*. Савінічы. *Куццю́ яду́ць, як жало́бны стол. У нас гэ́дак*. Закур'е.

**КУЦЮ́ШКА** *ж*. Кругляк. *Куцю́шкамі прывёс* [дровы], *пабі́ць на́да то́лькі*. Багданава.

**КУ́ЧА** *ж*. Горка. *Ка́мні зьбіра́лі і ў ку́чы ськіда́лі*. Кішуроўшчына. ◊ НО́ГІ Ў КУ́ЧУ. Пра чалавека з прыціснутымі каленямі, пра касалапага. *У яго́ но́гі ў ку́чу, кашала́пы ён*. Буй.

**КУ́ЧАР** *м*. Фурман. *Мой дзет рабо́таў у па́на ку́чърам*. Рэчкі.

**КУ́ЧАЧКА** *ж. памянш*. Бабка (пра снапы). *У ку́чачку ста́вілі снапо́ў пяць*. Рэчкі.

**КУ́ЧКА** *ж*. 1. Невялікая колькасць чаго-н. *Жме́ню ро́ўненька склада́юць у ку́чку і зьвя́зываюць*. Вялікі Азярэцк. *Пъкъча́ім гаро́х у ку́чкі*. Каралі. *Вару́шкі ку́чкамі расту́ць, ма́лінькія, жо́ўцінькія*. Нямойта. 2. Невялікая група людзей. *Паліца́і іду́ць такі́мі ку́чкамі, ацэ́пюць дзярэ́ўню*. Чуцькі.

**КУЧУРА́ВЫ**, **КУЧУРА́ВЫЙ** *прым*. Кучаравы. *Такі́ кучура́вы, бальшэ́й*. Алексінічы. *О, Со́нін ма́ліц кучура́вый*. Закур'е.

**КУШМЭ́Р** *м*. Плецены кош для гаспадарчых патрэб. *Кушмэ́р быў цэ́лы рыбы, мно́га, аш кішы́ць*. Нямойта.

**КУШУМІ́РКА** *ж*. Кашаміравая хустка. *Дзьве ху́сткі кушумі́ркі на сьмерць астаўля́ю*. Леснікова.

**КУШЫ́Н** *м*. Збан. *Зьдзе́ланы з глі́ны кушы́ны*. Буй.

**КХЫ-КХЫ-КХЫ** *выкл*. Гукі, якія перадаюць кашлянне. *Ляжы́м. Аткры́лъся ха́та і кхы-кхы, сеў за стол, узя́ў буты́лку, сядзі́м за сто́лъм, пае́ў і пашо́ў* [апавяданне пра здань, як прыходзіў памерлы бацька]. Ракаў Засценак.

**КЫР-КЫР-КЫР** *выкл*. Гукі, якія перадаюць хаду чорта. *Сплю́ на се́ні. Чу́ю па бэ́лькі кыр-кыр. Я тады́ крэ́пък быў. Як хвaці́ў яго́* [чорта] *за хвост і ап шу́лу дубо́вую! І забі́ў* (з казкі). Сянно.

**КЫР-КЫР-КЫР** *выкл*. Гукі, якія перадаюць паколванне пры болях у плячы. *Кыр-кыр – рука́ балі́ць у плячы́*. Леснікова.